# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №11 (168) 13 САКАВІКА 2000 г.


# САЎДЗЕЛ У ГІСТОРЫІ

***15 сакавіка а 18 гадзіне з плошчы Якуба Коласа пачынаецца Марш Свабоды***

*«Беларусь у сэрцы Эўропы. Мы ўздымаем на Зямлі нашую спрадвечную спадчыну. І гэтая сіла расьце са стагодзьдзяў, з разрабаваных руінаў Вялікага Княства, працінае тоўшчу касьцей, раструшчаных сталінізмам, і радыяцыйны попел Чарнобыля.*

*Пакуль мы есьць, Беларусь будзе жыць. У нас ёсьць свая сіла, свой дух і нашая маладосьць. З намі праўда гісторыі й любоў да сваёй краіны. Праўда й любоў мацнейшыя за хлусьню й нянавісьць. І мы пераможам».*

Гэткімі словамі скончаецца ўлётка, якая заклікае люд далучыцца да Маршу Свабоды. Менгарвыканкам дазволіў правесьці шэсьце з плошчы Якуба Коласа па праезнай частцы праспэкту Скарыны, вуліц Сурганава й Багдановіча. Пасьля будзе мітынг і рок-канцэрт.

Людзі звоняць у рэдакцыю і пытаюцца, а якая ж акцыя важнейшая – Марш Свабоды ці Дзень Волі. Мы зьвярнуліся да арганізатараў пасьлязаўтрашняй акцыі і Дня Волі.

**«НН»: Ці можна казаць, што Марш Свабоды — гэта ініцыятыва лібэралаў, а акцыі да Дня Волі — нацыяналістаў?**

**Зьміцер Бандарэнка, каардынатар «Хартыі'97»:** І першая, і другая акцыі ідуць у адным палітычным кантэксьце. У падрыхтоўцы і Маршу Свабоды, і Дня Волі поруч працуюць дружна й БНФ, і АГПБ, і Малады Фронт, і мы.

**Вінцук Вячорка, старшыня БНФ:** Па-першае, у нас цяпер няма падзелу на нацыяналістаў і неняцыяналістаў сярод тых, хто змагаецца за незалежнасьць. Мы ўсе паплечнікі ў справе адстойваньня нацыянальнае свабоды. І лібэралы, і сацыял-дэмакраты, і ўсе астатнія разумеюць, спадзяюся, што без уласнай дзяржавы рэалізацыя іхных сацыяльных і палітычных праграмаў немагчымая. Дзеля таго, што на Вясну-2000 мабілізуюцца самыя розныя пласты нацыі, розныя палітычныя групы, мы атрымліваем магутны рычаг уплыву. Дзеля незалежнасьці, за якую мы змагаемся штохвілінна! І супрацьпастаўленьні тут недарэчныя й правакацыйныя.

**«НН»: Якая з гэтых акцыяў усё ж «галоўная»?**

**З.Б.:** І гэта няслушная пастаноўка пытаньня, бо яны ўзаемазьвязаныя. Я думаю, больш маштабнаю акцыяй стане Дзень Волі 25 сакавіка. Гэта трывалая нацыянальная традыцыя. Да таго ж, людзі будуць лепей падрыхтаваныя, разагрэтыя, дзякуючы шэсьцю на 15 сакавіка, і 25-га прыпадае на выходны дзень. Таму на Дзень Волі прыйдуць усе ўдзельнікі Маршу Свабоды ды далучацца яшчэ іншыя. А самай вялікай акцыяй стане Чарнобыльскі шлях.

**В.В.:** Надзвычай важна правесьці Марш Свабоды 15 сакавіка годна й паважна, каб пазбыцца стэрэатыпаў, што паўсталі зь леташняга Маршу... Будзе прыгожа й моцна 15 сакавіка — будзе шматлюдна й хораша 25 сакавіка. А будзе ўсё добра на Дзень Волі — будзе магутней на Чарнобыльскім Шляху.

**«НН»: А што далей?**

**З.Б.:** Я разглядаю ўсе нашыя ініцыятывы як гістарычны працэс. Мы доўга былі проста назіральнікамі. А трэба дзейсна ўдзельнічаць у ўласнай гісторыі. Важная неперарыўнасьць працэсу. Наш лёс як нацыі вырашаецца сёньня...

**В.В.:** Наша задача гэтай вясною — зьдзейсьніць магутны ціск на рэжым. Каб ён або пайшоў на перамовы, або сышоў зусім...

Такім чынам, мір і паразуменьне пануюць у апазыцыйным асяродзьдзі. Разбураныя ўсе непатрэбныя перагародкі, а кожная згадка пра мінулыя падзелы ўспрымаецца як правакацыя на карысьць рэжыму. Ён цяпер галоўны вораг і галоўная перашкода для хлопцаў, што змагаюцца за незалежнасьць і ня дзеляцца больш на нацыяналістаў і ненацыяналістаў. «Шчырая братэрская любоў», так бы мовіць. Ці сапраўды беларуская незалежнасьці перашкаджае толькі Лукашэнка — пакажа гісторыя, якую твораць нашыя героі.

**Гутарыў Сяргей Харэўскі**

*Працяг тэмы на старонцы 8.*



Фота Анатоля Клешчука

*Маладая назарэцянка на ганку Наваградзкага кляштару, 1999*

# 11 СЬВЯТЫХ СЯСЬЦЁР-НАЗАРЭЦЯНАК

11 манашак-назарэцянак з Навагрудку, што прынялі пакутніцкую сьмерць у 1943 годзе, абвешчаныя сьвятымі.

Ордэн Назарэцянак (ягоная афіцыйная назва «Згуртаваньне сясьцёр Найсьвяцейшай сям'і з Назарэту») быў заснаваны ў Рыме ў 1875 г. польскай манахіняй Францішкай Седліскай. У тым жа годзе папа Пій IX зацьвярджае статут назарэцянак і бласлаўляе іх на дабрачынную дзейнасьць. За кароткі час ордэн набыў шырокую вядомасьць. Дамы сясьцёр-назарэцянак зьявіліся ў некаторых эўрапейскіх краінах, Злучаных Штатах. На пачатак ХХ ст. налічвалася каля 750 сясьцёр, якія мелі 61 дом.

На пачатку ХХ ст. сёстры-назарэцянкі афіцыйна «прыйшлі» ў Беларусь. У Горадні ў 1908 г. зачынены раней кляштар брыгітак быў перададзены сёстрам-назарэцянкам. У 1929 г. біскуп Пінскай дыяцэзіі Зыгмунт Лазінскі, той самы, што правёў першую службу ў Менску па-беларуску, заснаваў кляштар назарэцянак у Навагрудку. На пачатак 40-х гадоў у кляштары знаходзіліся дванаццаць манахіняў.

А потым прыйшла нямецкая акупацыя. Такіх жудасьцяў, якія выраблялі фашысты, ня ведаў дагэтуль сьвет. Найперш у Навагрудку было расстралянае жыдоўскае насельніцтва, потым прыйшла чарга беларусаў, расейцаў і палякаў. Сёстры-назарэцянкі жылі пры Навагрудзкім фарным касьцёле, творачы малітвы да Бога і навучаючы мясцовых дзяцей рэлігіі. Вакол гінулі ні ў чым не вінаватыя людзі. Манахіні мусілі цярпліва і маўкліва, такая ўжо завядзёнка ў законьніцаў, глядзець на тое, што адбывалася навокал. Але і сьвятым не стае цярплівасьці. Улетку 1943 г., калі ў Навагрудку адбыліся чарговыя арышты сярод насельніцтва, сёстры заявілі пра сваё жаданьне ахвяраваць уласным жыцьцём у абмен на жыцьці закладнікаў-навагрудчан. Але немцы пакуль жаданьня не выказвалі, назарэцянкі працягвалі маліліцца Богу і навучаць дзяцей.

31 ліпеня 1943 году ў Фарны касьцёл прыбег кур'ер: манахіні мусяць увечары зьявіцца ў будынак гебітскамісарыяту. Спакойна адправіўшы вечаровую службу, яны пайшлі ў горад. Пробашч фарнага касьцёла Аляксандар Зіянькевіч дарэмна чакаў іхнага вяртаньня, яны не вярнуліся ні позна ўвечары, ні ноччу, ні на наступны дзень. Раніцай 1 жніўня яны былі расстраляныя ў некалькіх кілямэтрах ад Навагрудку. *«Невінаватыя сьвятыя сёстры прынялі сьмерць з пачуцьцём выкананага абавязку перад Богам і перад людзьмі»*, — так сказаў нямецкі афіцэр, сьведка расстрэлу. 11 манахіняў прынялі сьмерць, сястра Маргарыта засталася ў жывых, бо на той час працавала ў лякарні. Вось імёны пакутніц Навагрудзкай зямлі: *сястра Стэла (Адэля Мардасевіч), сястра Імельда (Ядвіга Жак), Каніцыя (Яўгенія Мацкевіч), Раймунда (Ганна Кукаловіч), Даніэла (Элеанора Юзьвік), Канута (Юзэфа Крабат), Гвідона (Галіна Цэрпка), Сергія (Юлія Рапей), Феліцыта (Паўліна Баравік), Геліадора (Леакадзія Матушоўская), Барамея (Вераніка Нармантовіч).*

Толькі праз паўтары гады яны вярнуліся з такога доўгага падарожжа назад у свой храм і да сваіх парафіян. Навагрудчане ўрачыста пахавалі іх пад сьценамі Навагрудзкай Фары, усыпаўшы магілы процьмай кветак. Напэўна сярод месьцічаў, што ўдзельнічалі ў пахаваньні, былі тыя навагрудцы, якім сёстры-назарэцянкі выратавалі жыцьцё, прыняўшы сьмерць.

А ў верасьні 1991 году мошчы сясьцёр-назарэцянак былі перанесеныя ў капліцу Маткі Боскай Навагрудзкай і зьмешчаныя ў спэцыяльны саркафаг. Пачалася кананізацыя сясьцёр, якая скончылася 5 сакавіка Сьвятой Імшой у Ватыкане, адслужанай Янам Паўлам II.

**Алег Гардзіенка**

## І ніхто не сказаў «дзякуй»

Пад час свайго канфідэнцыйнага візыту ў Бэрлін 9 сакавіка (беларускія сродкі масавай інфармацыі пра візыт нічога не ведалі) міністар замежных справаў РБ Урал Латыпаў у інтэрвію бэрлінскай газэце «Бэрлінэр Цайтунг» катэгарычна абвергнуў інфармацыю пра магчымы ўвод расейскай ядзернай зброі ў Беларусь, спаслаўшыся на бязьядзерны артыкул нашай канстытуцыі. У той жа час У.Латыпаў заявіў, што «ніхто Беларусі не аддзячыў за тое, што мы адмовіліся ад ядзернай зброі, ніхто нічога не кампэнсаваў», цытуе яго БелаПАН.

## 80 шахцёраў загінулі ва Ўкраіне

Трагедыя адбылася ў мінулую суботу на шахце імя Баракова ў Краснадоне. Гэта самая сур'ёзная катастрофа на ўкраінскай шахце за часоў незалежнасьці. А ўвогуле Ўкраіна мае сумны сусьветны рэкорд па сьмерцях на шахтах. Прычына — састарэлае абсталяваньне. Толькі летась на ўкраінскіх шахтах загінулі больш за 270 чалавек. Сёньня і заўтра ва Ўкраіне – дні жалобы.

**С.К.**

*Усё нешта ня так у нашым каралеўстве: кіраўнікі дзяржавы імкнуцца пазбавіць яе самастойнасьці, моўныя ведамствы судзяцца зь беларускамоўнымі газэтамі, а ўправа аховы помнікаў, замест ратаваць, зносіць усю чыста старыну.*

*Пра злачынствы рэстаўратараў-герастратаў у Менску чытайце на старонках 6—7.*

# Горад, страчаны без вайны



Фота Ул.Дзянісава

*Пачатак зьнішчэньня, 1995 год*

# Паехаў у Кітай

***беларускі футбаліст Пятро Качура***

...«Пё-ёта-ар Качу-ура-а! Оэ-оэ-оо-о!» — такія песьні заводзілі фанаты, калі форвард «Дынама» трапна «мачыў» па варотах якога-небудзь «Дняпра». Узрываўся матам запоўнены галоўны стадыён краіны, калі Пятро даваў пудла, гуляючы за зборную... Усё гэта было, але ўжо пачынае забывацца. Маладое пакаленьне дынамікаў-скінчыкаў ужо й ня памятае ў большыні сваёй форварда Качуры. Але на гэтым тыдні нечаканая навіна прымусіла футбольную грамадзкасьць зноў загаварыць пра Пятра.

Галоўнага трэнэра ангельскага клюбу «Шэфілд Юнайтэд», відаць, прыкілбасіла выдаткоўваць грошы на рамонт лавак для запасных, якія апошнім часам настойліва праседжваў беларускі легіянэр. Коўч, памазгаваўшы крыху над лёсам Пітэра, вырашыў аддаць таго ў арэнду клюбу «Стакпорт». Але хутка беларусу арганізавалі канкрэтнае западло: брытанскія ўлады не далі нашаму суайчыньніку працоўнай візы, перакрэсьліўшы і «Стакпорт». Форвард вярнуўся б у родную Беларусь, але... нейкі кітайскі сэлекцыянэр пасватаў беларуса ў Кітай. На трэніровачным спарынгу «Чэнду Вуню» — так называецца клюб, што выявіў цікавасьць да беларуса — Качура забіў два мячы. Кітайцы хуценька сунулі яму ў рукі кантракт.

«Чэнду Вуню» заплаціў «Шэфілду» за Качуру 125 тысячаў фунтаў. Кантракт абавязвае беларуса выступаць за клюб з гораду Чэнду на працягу чэмпіянату. Пажадаем Пятру, каб ён сваёй бліскучай гульнёй прымусіў тамтэйшых заўзятараў глядзець на сябе, шырока расплюшчыўшы свае кітайскія вочы.

**Богусь Біятлянёнак**



*Іван ды Марыя Літоўчанкі. Дыван «Т.Шаўчэнка» (1960)*

# КАБЗАР ПАМАЛАДЗЕЎ

Сёлетнія — 176-я — угодкі з дня нараджэньня Тараса Шаўчэнкі, якія ўсё прагрэсіўнае украінства адзначала 9 сакавіка, не мінулі незаўважна і для нашага сталічнага гораду М. З гэтае нагоды ў Доме дружбы адбылася вечарына, зладжаная аб'яднанымі сіламі шматлікіх украінскіх арганізацыяў Беларусі і асьвячоная прысутнасьцю Надзвычайнага і паўнамоцнага пасла Украіны Анатоля Драня, які блаславіў мерапрыемства «нязлым ціхім словам», а пасьля, дзеля датрыманьня дыпляматычнага, значыцца, такту, прачытаў верш Вялікага Кабзара па-беларуску. Потым саматужныя дыяспарныя вакальна-харэаграфічныя калектывы з бляскам выканалі абавязковую рытуальную праграму.

Наймацнейшыя вопліскі сарвау сьпявак-саліст Міхайла Хаецкі, доктар-нарколяг па спэцыяльнасьці, — уладальнік надзвычайнага тэнару і калярытнага выгляду. Была і «раздача сланоў» — кіраўніцтва Дому дружбы атрымала ад украінскае амбасады шыкоўнае выданьне «Кабзара», яшчэ адно — у якасьці суцяшальнага прызу — атрымаў паэт Ул.-Скарынкін.

Словам, усё было як звычайна — на першы погляд. Аднак, скрозь звычайны фіміям «вялікаму змагару», «бацьку крытычнага рэалізму» праступалі абрысы эўрапейскага кантэксту, адчуваліся відавочныя спробы дастасаваньня да яго творчасьці Т.Шаўчэнкі. (Найбольш яскрава яны выявіліся ў выступе Т.Кабржыцкай, якую можна аднесьці і да дыяспарнай — як этнічную украінку, і да беларускай — як выкладчыцу БДУ — культураў.) Пaказальна было нават тое, што сам нованароджаны, які, звычайна, пад час такога кшталту мерапрыемстваў касаваўрыца з-пад смушкавае шапкі ды крывіцца ў вусы (з партрэту, вядома) гэтым разам аказаўся цалкам эўрапейскага выгляду (à la Syrakomla) маладым чалавекам. Дыяспара, нягледзячы на пэўную часава-прастаравую закансэрваванасьць, усё ж патроху разьвіваецца і мае здольнасьць з цягам часу пазбаўляцца ад стэрэатыпаў, што даўно аджылі на гістарычнай радзіме.

**Андрэй Скурко**

БТ вачыма беларуса

# ГАВАРЫ, ДЫ НЕ ЗАГАВОРВАЙСЯ!

У чацьвер у «Кроку-2», прысьвечаным беларускаму кінэматографу, удзельнічаў Юры Хашчавацкі. Крамольнага нічога не казаў, пра свайго «Звычайнага прэзыдэнта» ня згадваў. Але ўжо на наступны дзень, у пятніцу, вядучаму «Кроку» Яраславу Беклямішаву прад'явілі загад аб ягоным звальненьні з БТ. Прысутнасьць у жывым эфіры Хашчавацкага стала апошняй кропляй цярпеньня кіраўніцтва. Добра далася яму ў знакі яшчэ праграма з удзелам журналістаў недзяржаўных СМІ. Тады афіцыйна прэтэнзіі выказваліся да слабой падрыхтоўкі эфіру і працы вядучых з аўдыторыяй, а прыватна Беклямішаву параілі больш так не рабіць.

У тую ж пятніцу ў АТН госьцем «Падзеі» быў старшыня Ўсебеларускага клюбу выбарцаў Уладзімер Гудзееў. Ягоная гутарка зь вядучым Мялешкам яскрава ілюстравала прымаўку «ты яму пра абразы, а ён табе пра гарбузы». Бедны сп.Гудзееў раз за разам вымушаны быў даводзіць вядучаму свае думкі: што перамовы былі праваленыя не апазыцыяй, што «радыкальнай апазыцыю робіць улада», што «ёсьць частка людзей, якая не прымае апазыцыю, але іншая частка людзей не прымае ўлады». Паўтараў пару разоў: «Я ня стаў бы казаць, што нехта страціў давер. Калі будуць сапраўды свабодныя выбары, усе змогуць свабодна выказвацца, тады й пабачым». А Мялешка яму ўсё адно: «Вам не падаецца, што некаторыя з радыкалаў страцілі давер і ня пойдуць на канструктывізм?» Гудзееў: «Я ня стаў бы казаць, што нехта страціў давер», а той яму зноў: «Вам не падаецца, што яны страцілі давер і ня пойдуць на канструктывізм?» І так усю праграму. Такі грамадзкі дыялёг.

**Арцём Лук'яновіч**

лісты ў рэдакцыю

# СПАБОРНІЦТВЫ Ў АНТЫБЕЛАРУСКАСЬЦІ

*Ірына Парахонька, якая пабралася шлюбам зь Юр'ем Казіяткам і памяняла прозьвішча (пасьля чаго некаторыя калегі пачалі зваць яе Казахонькай, а яго — Паразіяткам), неяк была вядучай выпуску навін у 15.00 у нядзелю. Але гэты выпуск спазьніўся хвілін на 10. Некаторыя гледачы пасьпелі падумаць, што ў краіне рэвалюцыя ці памёр хто. Пазьней выявілася, што з Ірынай здарылася гістэрыка, і яна адмовілася выходзіць у эфір. Прычына — нехта зрабіў ёй заўвагу якраз перад выпускам. Пасьля гэтага Ірыну адхілілі ад працы вядучай на няпэўны тэрмін.*

*А Юры Казіятка пасьпяхова пераймае лаўры Зімоўскага. Раней на БТ ужо аднойчы была канкурэнцыя паміж двума расейскамоўнымі аракуламі — Аляксандрам Зімоўскім ды Ігарам Грышаном. Тады Грышана зьелі, і ён знайшоў сабе прытулак у «Народнай газэце» на чале з Шыманскім. Цяпер кажуць, што шанцы Зімоўскага горшыя: маладая кроў канкурэнта аж кіпіць. Навошта беларускаму БТ дзьве так званыя аналітычныя праграмы на расейскай мове, ніхто не разумее. Нават на Макаёнка, 9 лічаць гэта пародыяй на ОРТ з Дарэнкам і Шараметам. Зімоўскі спадзяецца, што Казіятка сыдзе на БТ-2, але можа гэтага не дачакацца — тады яго самога «сыдуць». Пакуль жа Казіятка пераплюнуў Зімоўскага ў антыбеларускасьці на БТ: у суботняй «Панараме» нават тытры пішуць па-расейску, хоць з панядзелка па пятніцу і ў «Рэзанансе» — дагэтуль па-беларуску.*

*Тым часам безвынікова працягваецца барацьба за чысьціню мовы там, дзе яна на БТ яшчэ засталася. Ірына Сушкевіч пастаянна прамаўляе «прыспыніць» замест «прыпыніць», а Юры Шамшур — «заўпэўніў» замест «запэўніў». Перавучыць іх пакуль не ўдаецца. А вось Інга Хрушчова (унутраная тэлевізійная мянушка Чыпіла) зь цяжкасьцю, аднак змагла пазбавіцца свайго адмысловага слоўца «ўнівэрстытэт».*

*Гарадзенскі карэспандэнт АТН Мікалай Казейка даўмеўся праілюстраваць сюжэт пра самазабойцу, які ўпаў з тэлевежы абласнога тэлерадыёаб'яднаньня. Спачатку ён паказаў здалёк чалавека, што пабег да вежы, потым ягоныя ногі, якія ўзьбіраліся па прыступках, нарэшце, тыя ж ногі, што ляжалі на пакрытай сьнегам зямлі. Выканаўца ролі невядомы, але ідэя бліскучая. Думаю, летам у рэпартажы з Гародні пра тапельцаў мы ўбачым чалавека, які распранаецца, потым ягоную галаву ў рацэ, а далей — бурбалкі ды кругі на вадзе.*

**Георгі Кавалеўскі, Менск**

дзе варта быць

## У Вішневе

9 сакавіка ў лякарні вёскі Вішнева на Валожыншчыне пройдзе акцыя для маладых бацькоў «Немаўля—2000». У рамках яе адбудзецца бацькоўскі конкурс з прызамі на лепшы ліст свайму навародку «Мы чакаем цябе, малое!», а каб сабраць адзежу для немаўлят з маламаёмных сем'яў, арганізатары мяркуюць правесьці дабрачынную акцыю «Мама — маме». У каго ёсьць што лішняе, адвозьце.



## У Магілёве

17—19 сакавіка ў Магілёве бард-клюб «Новы горад» ладзіць адкрыты гарадзкі фэстываль аўтарскай песьні «Марцовы кот». Даведацца можна ў Сержука Кулягіна — тэл. у Магілёве 23-36-06, 23-94-64 альбо ў Васіля Аўраменкі — тэл.: 42-53-10, 22-04-60.

## Бэсон

У рамках тыдня франкафаніі ў Менск прыедзе сярэдняй вядомасьці францускі пісьменьнік Патрык Бэсон. Раней ён быў камуністам. Цікава, што ён цяпер думае пра нацыянальна-вызвольную барацьбу ў апошніх калёніях Эўропы? Цікава таксама, што ён мяркуе наконт таго, што француская амбасада фундуе дзясяткі перакладаў на расейскую мову і амаль ніводнага — на беларускую? Сустрэчы зь ім адбудуцца 17 сакавіка ў Лінгвістычным унівэрсытэце (10.30) і 18 сакавіка ў выставачным комплексе «Менскэкспа».

## Брэсон

У тых жа рамках адбудзецца паказ фільмаў памерлага летась рэжысэра Рабэра Брэсона. У Доме вэтэранаў на вул.Янкі Купалы 14 сакавіка паказваюць «Дамы Булёнскага лесу», 17-га — «Працэс Жаны д'Арк», 20-га — «Выпадкова, Бальтазар» (безь перакладу), 21-га — «Мушэт», 22-га — «Лянцэлот Азёрны», 23-га — «Грошы».

## Ірляндыя

15 сакавіка а 14-й Франка-беларуская заля інфармацыі (у абласной бібліятэцы імя Пушкіна на вул.Гікалы) запрашае паслухаць адкрытую лекцыю прафэсара дублінскага ўнівэрсытэту Рональда Гіла «Ірляндыя ў сучасным сьвеце» (пераклад толькі на расейскую). Каб даведацца, т.: 211-36-71

## Іслам

У Беларускім калегіюме 14 сакавіка Хасан Гафараў чытае лекцыю «Іслам: рэлігія Ўсходу ці Захаду?». Пачатак а 18.30 у бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул.Харужай 21).

## Вечарына Багушэвіча

Таварыства беларускай мовы запрашае сваіх прыхільнікаў на вечарыну, прысьвечаную 160-м угодкам з дня нараджэньня клясыка беларускай літаратуры Францішка Багушэвіча, якая адбудзецца ў Менску 21 сакавіка а 17-й гадзіне ў кінатэатры «Зьмена», што на вуліцы Даўгабродзкай 4. У праграме вечарыны — выступы пісьменьнікаў, дакумэнтальная стужка «За Кушлянамі сьнег», прэзэнтацыя кніг «Беларусь» К.Тарасава і «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі» Ў.Арлова і Г.Сагановіча, а таксама сьпевы.

## «Дзесяць вякоў» зноў у Менску

Аўтары кнігі «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі» Ў.Арлоў і Г.Сагановіч зноў прэзэнтуюць сваю кнігу для менчукоў. Гэтым разам у Беларускім ліцэі. Імпрэза адбудзецца 18 сакавіка на вул.Кірава, 21. Пачатак а 14:30. Там і кнігі можна будзе прыдбаць.




## Духовы спэцназ

Сэмінарыст — гэта ня толькі выпускнік сэмінарыі, але й чалавек, які праслухаў сэрыю сэмінараў. Стацца сэмінарыстам вам дапаможа Малады Фронт. Павал Севярынец, вядомы беларускі экспэрт па PR, піарведамляе пра пачатак набору навучэнцаў на курсы ды-джэяў адраджэньня. Вас навучаць праводзіць беларускія дыскатэкі й шоў у навучальных установах, ствараць тэксты й раскручваць рэклямовыя лёзунгі, аказваць псыхалягічную дапамогу ды нават спыняць масавую паніку. У панядзелак 13 сакавіка а 17-й пройдзе пачатковы тур сэмінараў — уводзіны й тэставаньне. Запрашаюца ўсе маладыя людзі 1970-85 г. нараджэньня (уваход вольны).

## Гісторыя цацак

Гэты мультфільм нарабіў у свой час шмат шуму. Амэрыканцы, ня звыклыя да чэргаў, падоўгу прастойвалі каля касаў кінатэатраў, каб толькі патрапіць на «Гісторыю цацак». Гэты мультфільм, цалкам зроблены з дапамогай кампутараў, абавязкова зробіцца клясыкай сусьветнай анімацыі. І нарэшце мы можам пачуць беларускую мову з вуснаў ягоных герояў: 25 сакавіка а 18 гадзіне ў Беларускім відэаклюбе прэм'ера «Гісторыі цацак». Кошт квітка — 100 рублёў.

Тамсама можна наведаць выставу беларускамоўнае аўдыё- ды відэапрадукцыі, а таксама лепшых беларускіх кніжак, выдадзеных у апошнія гады. Вул.Румянцава 13, ТБМ (ст.м. «Пл. Перамогі», ля Лінгвістычнага ўнівэрсытэту).

## Дзе ня варта быць

З 1 да 31 сакавіка ў краіне забароненая лоўля шчупакоў. Яны якраз нерастуюць. Нам пра гэта паведаміла Беларуская Асацыяцыя Рэсурсавых Цэнтраў. Беражыце родную прыроду!

# КРАІНА, ДЗЕ НЕ БАЯЦЦА ВАЙНЫ

У Кітаі апошнім часам абвастрылася змаганьне з опіюмам для народу. Ужо паўгады прайшло ад разгону Фалунгуна, але й цяпер штодня арыштоўваюць прыхільнікаў сэкты. Колькі дзён таму ўлады арыштавалі зааднo й каталіцкага біскупа. Ад сярэдзіны 80-х кітайцаў апанавала сапраўдная рэлігійная ліхаманка. Мааізм выдыхнуўся, а матар'ялізм Дэн Сяапіна зь ягоным дэвізам «быць багатым — пачэсна» не даваў задавальненьня душы. Ад ідэалягічнага банкруцтва і ўтварылася духоўная пустэча.

Яе пачалі імкліва запаўняць разнастайныя рэлігійныя культы, што прапаноўвалі людзям духоўную апору. Роскві сэктаў у Кітаі зазвычай папярэднічаў зьмене дынастыяў — гэта й палохае ўлады.

Афіцыйна прызнаныя ў Кітаі толькі пяць «патрыятычных» рэлігіяў, якія павінны дзейнічаць у вызначаных абсягах пад кантролем партыі. А перасьледуюцца найперш вызнаньні, ня ўлучаныя ў сьпіс. Але душэньне не дапамагае: множацца сэкты, пратэстанцкія «хатнія малельныя дамы» і падпольныя касьцёлы. З-за ўцёкаў Кармапы — трэцяга па важнасьці тыбэцкага рэлігійнага кіраўніка — праваліласяспроба кантролю над Тыбэтам, а дачыненьні з ісламам ніколі не былі добрымі — бо мусульманскія нацыянальныя мяншыні прагнуць незалежнасьці.

Але сэктанцкі рух не аб'ядноўваецца з рухам інтэлігенцкадысыдэнцкім.

Сэкта прапануе адпачынак для душы і канкрэтную ўзаемадапамогу ейных сяброў, а таксама, што важна на тле заняпаду маральных вартасьцяў, хоць і жорсткі, але прывабны маральны кодэкс. Яна абяцае шчасьце, цеплыню, дапамогу й салідарнасьць, да якой людзі звыкліся ў колішніх працоўных супольнасьцях (цяпер Кітай перажывае хвалю перасяленьня вяскоўцаў у месты, дзе яны трапляюць у непрыветнае атачэньне).

Рэлігійныя рухі прапануюць прасьцейшыя, проці дэмакратаў, выйсьці. Аднак, хоць яны і спрыяюць звыканьню грамадзтва з плюралізмам, наўпрост дэмакратызацыі яны не выклікаюць.

Кітайскія камуністы спрабуюць распачаць барацьбу з карупцыяй. Летась з-за карупцыі пакаралі 17 чыноўнікаў нават міністэрскага ўзроўню. У сусьветным карупцыйным рэйтынгу КНР упэўнена заняла месца сярод краінаў з найвышэйшым узроўнем распусты. Спрабуючы хоць неяк супакаіць самавольства карумпаваных уладаў, кітайцы, асабліва сяляне, пачалі, як у сярэднявеччы, ствараць патаемныя арганізацыі. У гарах ля Чанціня паўстала нават сялянская армія, якая, праўда, імгненна была ліквідаваная сіламі бясьпекі.

Адначасова ўлады імкнуцца пераключыць народную ўвагу на Тайвань. На востраве 18 сакавіка маюць адбыцца прэзыдэнцкія выбары — другія ў гісторыі дэмакратычныя выбары прэзыдэнта Кітаю (Тайвань, дарма што там жыве толькі 2% ад агульнай колькасьці кітайцаў, лічыць сябе адзіным законным носьбітам нацыянальнага сувэрэнітэту). Стан грамадзянскай вайны трывае ад 1949 году, а суперніцтва між двума Кітаямі часам носіць проста анэкдатычны характар. Тайванцы наўпрост плацілі асобным афрыканскім краінам (Гамбіі, напрыклад, далі 35 млн. даляраў) за прызнаньне Кітаем сябе і ўстанаўленьне дыпляматычных дачыненьняў.

За паўстагодзьдзя тайванцы звыкліся з рытуальнымі выбухамі злосьці Народнай Рэспублікі. Цяпер галоўны мэтай Пэкіна стала не дапусьціць абвяшчэньня Тайванем незалежнасьці. Кожны раз найбольшая напружанасьць узьнікае якраз перад выбарамі. Рэч у тым, што асноўная апазыцыйная партыя Тайваня, Дэмакратычная прагрэсіўная, якраз-такі і йдзе на выбары з галоўным лёзунгам абвяшчэньня незалежнасьці. Перамога гэтай партыі і абвяшчэньне новым прэзыдэнтам незалежнасьці адназначна можа прывесьці да вайны. У 1996 годзе, пад час першых тайваньскіх выбараў, Кітай пачаў вайсковыя вучэньні і запускі ракет наўкол востраву. ЗША ў адказ паслалі на падмогу Тайбэю свае авіяносцы.

Сёньня сытуацыя небясьпечна зьмянілася на карысьць Кітая — з космасу заўважылі стварэньне новых ракетных установак насупраць Тайваня. Паводле разьлікаў Пэнтагону, да 2005 году КНР будзе цалкам гатовая да ўварваньня, і яе ня зможа спыніць нават амэрыканскі Сёмы флот. Кітайцы, падобна, гатовыя ўжыць і ядзерную зброю — ёсьць зьвесткі, што кітайская вайсковая дактрына па-ранейшаму не выключае нават магчымасьці атамнага ўдару па Амэрыцы і зыходзіць з таго, што ядзерную вайну можна выйграць. Вядома ж, што кіраўнікі кітайскай кампартыі лічаць, што лепш страціць 1000 салдат, чым лапік зямлі.

У Кітаі маецца 2,8 мільёны жаўнераў, а ў Тайвані — 400 тысячаў. Як кажуць спэцыялісты, на сёньня Тайвань змог бы самастойна трымаць кантроль над сваёй паветранай прасторай ня больш за 45 хвілінаў. Але міністар абароны Тайваня цьвёрда заяўляе, што ў выпадку чаго ягоная краіна будзе «трымацца, як Ізраіль».

Ясная рэч: мала хто з 22 мільёнаў тайванцаў згодны на аншлюс з кантынэнтальнымі камунякамі.

Шматлікія ж аналітыкі прадказваюць Кітаю, гэтай апошняй, пасьля Расеі, буйной імпэрыі сьвету, не аб'яднаньне, а немінучы распад. Як толькі грамадзянская супольнасьць і прыватная гаспадарка дасягнуць пэўнага ўзроўню разьвіцьця, аўтарытарная ўлада вычарпае свой патэнцыял.

**Сяргей Радштэйн**






# ТЭЛЕГЛЯДЫЯТАРЫ

Уся Нямеччына — ад вядомых палітыкаў да вахцёраў у студэнцкіх інтэрнатах — узбуджана дыскутуе накшт тэлешоў *Big Brother* («Вялікі Брат»), якое штодня ў 20.15 трансьлюецца на нямецкім тэлеканале RTL-2. Гэтая праграма — сумесь мыльнай опэры з тэлегульнёй. Дзесяць адмыслова адабраных незнаёмцаў павінны правесьці сто дзён разам у будынку зь некалькімі пакоямі ды ўнутраным дворыкам для шпацыраў. Кантакты з навакольным сьветам зьведзеныя да нуля — толькі зрэдчасу ўдзельнікам дазваляюць замаўляць сабе пэўныя прадукты «з волі». За гульцамі бесьперапынна назіраюць 28 тэлекамэраў, нават тады, калі яны робяць тое, чым звычайныя людзі займаюцца на самоце. Сапраўды, трохі падобна да раману Джорджа Оруэла «1984», дзе праз відэавочка за жыцьцём насельнікаў таталітарнай будучыні сочыць дыктатар Вялікі Брат.

Што праўда, у дэмакратычнай Нямеччыне на жыхароў будана ў прадмесьці Кёльну пазірае не бундэсканцлер Шродэр, а ўся краіна. Кожны тыдзень гульцы галасаваньнем абіраюць сярод сябе двух, якія найбольш замінаюць нармальна існаваць астатнім, а гледачы вырашаюць, хто з гэтай пары вылятае з гульні. Той, хто «перажыве» канкурэнтаў і застанецца адзін, атрымае чвэрць мільёну нямецкіх марак (127 823 эўра).

RTL-2 правёў бліскучую рэклямную атаку. 1 сакавіка, у дзень першай трансьляцыі шоў глядзелі 3,3 мільёны чалавек, а на інтэрнэтаўскі сайт *Big Brother* было немагчыма трапіць — такі ён быў перагружаны. Зрэшты, цікавасьць, падагрэтая апантанай крытыкай з боку супраціўнікаў тэлетаталітарызму, пачала хутка спадаць. На наступны дзень «Вялікага Брата» глядзелі ўжо 2,96 мільёнаў немцаў, потым — 1,9 ды 1,48 мільёнаў.

## Манія

Ідэя *Big Brother* ня новая. У 1970 г. нямецкая тэлевізія паказвала «Гульню на мільён» — шоў, створанае пісьменьнікам ды журналістам Вольфгангам Мэнге. Сюжэт быў такі: чалавек — удзельнік гульні — на працягу некалькіх сэрыяў спрабуе ўнікнуць кулі прафэсійнага кілера. Калі ён выйграе, дык вяртаецца дахаты зь мільёнам, калі не — разьвітваецца з жыцьцём. Усё было, вядома, прыдумана, у сэрыяле здымаліся акторы, але выглядала гэта, нібыта рэпартаж зь месца рэальных падзеяў. Студыю захліснуў паводак тэлефонных званкоў ад гледачоў, якія прынялі дзеяньне на экранах за сапраўднае. Але галоўнай нечаканасьцю сталася тое, што амаль усе яны жадалі зрабіцца... кандыдатамі для ўдзелу ў паляваньні на іх саміх.

Улетку 1994 году на тэлевізіі зьявілася першая нямецкая дакумэнтальная мыльная опэра «Сапраўднае жыцьцё» — аналяг шоў каналу MTV «Сапраўдны сьвет». Тры жанчыны і чацьвёра мужчынаў прабавілі тры месяцы пад бесьперапынным наглядам камэраў ды жучкоў-мікрафонаў. Гэта быў, аднак, сапраўды сэрыял: нікога з праграмы не выкідалі дый прызу не плянавалася.

Нешта вельмі падобнае да *Big Brother* можна пабачыць і ва ўсясьветным павуціньні. Зараз выбрыкамі такога кшталту нікога ня зьдзівіш, а вось пару гадоў таму надзвычай папулярнай зрабілася старонка кабеты, якая ўсталявала фотаапарат у сваёй кватэры, каб любы з некалькіх дзясяткаў мільёнаў карыстальнікаў Інтэрнэту мог на свае вочы пабачыць яе штодзённае жыцьцё.

Увогуле *Big Brother* — амаль дакладная копія галяндзкай тэлегульні, чый пераможца, дарэчы, зрабіўся зоркаю тэлевізіі Нідэрляндаў. У галяндцаў шоў прайшло безь перашкодаў. Ну, вядома, краіна бяз комплексаў. Але ў Нямеччыне, асабліва пасьля таго, як адзін з удзельнікаў швэдзкага варыянту тэлегульні зрабіў сабе сьмерць, ахвотнікаў плюнуць на ўсёвідушчае вока «Вялікага Брата» ўсё большае.

## Pro et contra

«Па-моему, *Big Brother* — гэта пачварная эксгібіцыяністкая ўсёдазволенасьць ды парушэньне права на прыватнае жыцьцё», — кажа Вольфганг Мэнге. Таму, хто лічыць гэта ўсяго толькі кансэрватыўнымі поглядамі сямідзесяцігадовага дзядулі, трэ паслухаць рэдактара газэты *Die Woche* Адрыяна Зака, які быў адным з удзельнікаў праекту «Сапраўднае жыцьцё»: «Пасьля таго, як здымкі скончыліся, я захварэў ды шмат дзён праваляўся ў ложку з тэмпэратурай. Думаю, гэта была рэакцыя арганізму на псыхалягічны ціск, пад якім я знаходзіўся тры месяцы». Шматлікія экспэрты занепакоеныя тым, што *Big Brother* стварае небясьпеку для псыхічнага здароўя ўдзельнікаў ды падвышае нэрвознасьць аўдыторыі.

*Big Brother* — гэта камень, які можа пацягнуць за сабой мэдыя-лавіну. Іншыя тэлеканалы ўжо пракаўтнулі сьліну зайздрасьці посьпеху RTL-2 ды выношваюць пляны стварэньня сваіх «братоў». Аднак проста капіяваць перадачу бессэнсоўна: глядач патрабуе нечага новага, штораз вастрэйшага. У чым гэтая вастрыня будзе заключацца, спрагназаваць цяжка.

Калі ўдзельнікі «Сапраўднага жыцьця» спрабавалі знаходзіць кампрамісы ды паразуменьне паміж сабой, бо ведалі, што будуць бачыць тыя самыя пысы на працягу трох месяцаў, дык галоўная мэта галодных пацукоў у акварыюме *Big Brother* — пазбавіцца канкурэнтаў. Ні тая, ні іншая перадачы не паказваюць сапраўднага жыцьця (бо гэта не жывы эфір), а толькі асобныя ўрыўкі, скампанаваныя рэжысэрамі. Вядома, адбіраюцца найбольш эмацыйныя моманты, ствараючы сцэнар масавага псыхозу.

*Big Brother* небясьпечны яшчэ й тым, што ён уяўляе прэцэдэнт публічнага (няхай нават добраахвотнага) нагляду за прыватным жыцьцём. Ну, каму даспадобы пэрспэктыва аднойчы заўважыць у сваёй прыбіральні запылены аб'ектыў убудаванай у сьцяну тэлекамэры?

Ёсьць, аднак, важны аргумэнт на карысьць існаваньня такіх праграмаў: свабода слова й думкі. Шкода, якую можа нарабіць «Вялікі брат», вельмі няпэўная ды неакрэсьленая, а вось забарона перадачы можа стаць прэцэдэнтам для іншых абмежаваньняў. Бо зусім не абавязкова дамагацца забароны шоў — дастаткова проста адключыць блакітнае вока «Вялікага Брата».

**Алесь Кудрыцкі**

# У КАНГРЭСЕ ЗША

***Кангрэс ЗША на мінулым тыдні з ініцыятывы Камісіі бясьпекі і супрацоўніцтва ў Эўропе праводзіў беларускія слуханьні.***

Зь беларускага боку былі запрошаныя прадстаўнікі Вярхоўнага Савету — сьпікер Сямён Шарэцкі і яго намесьнік, прадстаўнік лібэралаў, Анатоль Лябедзька, а таксама былы сьпікер Станіслаў Шушкевіч. У якасьці госьця на абмеркаваньні прысутнічаў таксама Зянон Пазьняк. Старшынях на паседжаньні кангрэсмэн Крыстафэр Сьміт, які, адкрываючы дыскусію, зазначыў, што «становішча беларускага народу, які доўга цярпіць, робіцца яшчэ горшае». Крыстафэр Сьміт таксама адзначыў, што Аляксандар Лукашэнка застаецца пры ўладзе, нягледзячы на заканчэньне яго легітымных паўнамоцтваў. Кангрэсмэн Сьміт зазначыў на слуханьнях: «Рэжым Лукашэнкі працягвае чапляцца за ўладу, душачы фундамэнтальныя свабоды і парушаючы правы чалавека. Лукашэнка загаворвае дыялёг або карыстаецца тактыкай зацягваньня і заблытваньня, якая вельмі нагадвае камуністычнае мінулае».

Рос Вільсан, дарадца дзяржсакратара ў справах новых незалежных дзяржаваў, так пракамэнтаваў спробы далучэньня Беларусі да Расеі: «Рэжым Лукашэнкі даўно страціў сваю дэмакратычную легітымнасьць і, на наш погляд, ня мае паўнамоцтваў абавязваць Беларусь да нечага, што можа зьменшыць сувэрэнітэт і самастойнасьць краіны».

Зянон Пазьняк, які ўдзельнічаў у ранейшых слуханьнях яшчэ ў 1996-м годзе, адзначыў, што цяпер абмеркаваньне мела больш дзелавы і канкрэтны характар.

**Паводле Радыё Свабода**

# АХОВА СПАДЧЫНЫ



Малы гасьцінны двор, здымак канца XIX ст.

У раньнія гады станаўленьня, як думалася, беларускай дзяржаўнасьці, Савет Народных Камісараў Беларусі прыняў дакумэнт аб ахове помнікаў даўніны. Дзяржава брала пад апеку каля сотні аб'ектаў архітэктуры, мастацтва і прыроды. Там былі Менскае замчышча, Камароўскае балота, дамініканскі, езуіцкі, бэрнардынскія касьцёлы ў Менску, касьцёл і царква ў Заслаўі, будынкі Віцебску, Полацку. Але калі дзяржава разгарнула вайну з «рэлігійным цемрашальствам», шэраг выдатных помнікаў дойлідства зьнішчылі. У Менску ў 1934 г. ня стала Сьвятадухаўскай царквы на Высокім рынку, якая да гэтага была перабудаваная ў XIX ст. У Віцебску ў 1936 г. узарвалі Ўваскрасенскую царкву і ў 1937 годзе моцна пашкодзілі Ўсьпенскі сабор. Але ў перадваенны час цалкам яго зьнішчыць ня здолелі. Дабілі выдатны позьнебарочны помнік пасьля вайны, калі тэхналёгіі зьнішчэньня, як і патрэбная для гэтай справы тэхніка ды іншы рыштунак былі даведзеныя да неабходнай дасканаласьці.

Шмат якія з прынятых пад ахову помнікаў былі зьнішчаны пасьля вайны. У Менску, да прыкладу, зьнесьлі рэшткі пашкоджанага ў вайну дамініканскага касьцёла. За яго, між іншым, зь Нямеччыны нават спагналі кантрыбуцыю.

Вайна Савецкага Саюзу зь Нямеччынай дала магчымасьць сьпісаць шмат якія страты на ліхалецьце ваеннага часу. Праз колькі гадоў пасьля перамогі над гітлераўскім фашызмам менавіта на ваенныя разбурэньні быў аднесены знос многіх унікальных помнікаў даўніны. У 1957 годзе магілёўская ратуша была разбураная ўжо пасьля таго, як у ёй пачаліся рамонтныя работы. У тым самым 1957 годзе ў Віцебску амаль цалкам былі вынішчаныя старасьвецкія будынкі, архітэктурныя дамінанты гораду. Тое ж у гэты час і нават раней адбывалася ў Слоніме, Пінску, Горадні, ва ўсёй Беларусі. І толькі пасьля ўсесаюзнага скандалу, які ўзгарэўся, калі зьнішчылі ў 1961 г. царкву Зьвеставаньня XII ст. у Віцебску, руйнаваньне старой архітэктуры было прыпынена. Але ненадоўга. У канцы 60-х — пачатку 70-х г. распачалося разбурэньне грамадзянскай забудовы на вуліцы Леніна ў Віцебску. У тыя ж часы праводзілася руйнаваньне Нямігі ў Менску.

Да апошніх падзеяў спрычыніўся сам Пятро Машэраў. Творчая інтэлігенцыя паспрабавала стаць на абарону адной са старажытнейшых сталічных вуліц. І тады першы сакратар ЦК КПБ прапанаваў творцам памяняцца з жыхарамі нямiскіх мураванак сваімі ўтульнымі кватэрамі. Пісьменьнікам ды мастакам ня стала ні розуму, ні адвагі, каб запатрабаваць правядзеньня рэстаўрацыі перад іхным перасяленьнем у будынкі ста-двухсотгадовай даўніны. Ня той быў досьвед, ня той узровень мысьленьня.



Выгляд Малога гасьціннага двара з боку бэрнардынскага кляштару, 1920-я гады

Баль правіла прыдворная архітэктурная зборня. Выхаваная на прыкладах «белакаменнага дойлідства Расеі», яна праз адсутнасьць нечага такога ў Беларусі не ўспрымала нацыянальных асаблівасьцяў у архітэктуры, як і ўвогуле не прымала праяваў беларускасьці ні ў чым. Ім наўцям было, што беларускія землі разьвіваліся ў кантэксьце эўрапейскіх культурных плыняў. Яны не дапускалі магчымасьцяў выяўленьня ў беларускай архітэктуры прыкметаў раманскага стылю, фармаваньня ўласных традыцыяў готыкі, рэнэсансу, барока. Такой рознастылёвасьці, нязнанай на бязьмежных расейскіх прасторах, не маглі ўспрыняць выпеставаныя савецкай адукацыйнай сыстэмы, хоць многія архітэктары прыйшлі з навучальных установаў Ленінграду, які яшчэ выяўляў прыкметы некаторай культурнай адметнасьці, але ж таксама быў прасякнуты духам «трэцяга Рыму». Пра той пэрыяд вядомы ананімны паэт напісаў: «Быў час, быў век, была эпоха...» Ня менш выразна пра атмасфэру тых гадоў напісаў неананімны наваполацкі паэт:

*«Размаўляю па беларуску —*
*Як у трамваі глядзяць на зайца,*
*Пазіраюць на мяне этрускі*
*Ад Асьвеї да Лунінца».*

У тыя часы сапраўдным выбухам сталася публікацыя ў бюлетэні «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі» артыкула літоўскай дасьледчыцы Янкавічэне «Нацыянальныя рысы беларускай готыкі». Гэта ўжо выдавала на палітыку. З пасады паляцеў галоўны рэдактар выданьня. Праўда, пасьля зьнішчэньня Нямігі надышло адноснае зацішша. Нейкі рух у грамадзтве яшчэ зрабілі публікацыі першай паловы і сярэдзіны 70-х у «Строительстве и архитектуре Белоруссии», у якіх прапагандавалася ідэя пабудовы каскаду фантанаў на ачышчаным ад старасьвеччыны менскім Верхнім горадзе, скуль плянавалася распасьцерці «вид на водно-зелёный диаметр белорусской столицы». На пачатку 80-х грамадзкасьці нават удалося ўратаваць ад разбурэньня комплекс будынкаў на плошчы Свабоды — 2, 4, 6, 7, 8 у Менску. Праўда, у 1984 г. быў зруйнаваны дом на вуліцы Інтэрнацыянальнай, 28, дзе ў XIX ст. месьціўся гарадзкі тэатар, у якім была пастаўленая першая беларуская опэра «Сялянка» зь лібрэта Дуніна-Марцінкевіча на музыку Манюшкі.

Шлях фармаваньня сыстэмы аховы спадчыны ў Беларусі, як і ва ўсім Савецкім Саюзе, быў няроўным. У 1947 г. склалі сьпіс, у які ўключылі больш за 200 помнікаў беларускай архітэктуры. Але ў выніку «ўдасканаленьня» сыстэмы аховы спадчыны паводле пастановы, падпісанай Сталіным у 1948 г., ужо на пачатку 50-х у сьпісе налічвалася толькі каля 20—30 аб'ектаў. Нейкія спробы прыняцьця пад ахову невялікай колькасьці помнікаў былі зробленыя ў 1975 г. І толькі ў 1988 г. была прынятая пастанова Савету міністраў БССР за №38, якой зацьвярджаўся Сьпіс помнікаў гісторыі і культуры рэспубліканскага значэньня Беларускай ССР з падзелам іх на помнікі гісторыі, архітэктуры, мастацтва і археалёгіі. У 1984—1988 г. Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру Акадэміі навук БССР быў выпушчаны ў сьвет шматтамовы «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларускай ССР». У 1984 г. з ініцыятывы грамадзкасьці Савет міністраў БССР прыняў пастанову за №350 «Аб грубых парушэньнях заканадаўства аб ахове помнікаў гісторыі і культуры», адным з пунктаў якой Збор помнікаў быў прыраўняны да афіцыйнага дакумэнту. Некаторае ўдакладненьне аб'ектаў спадчыны, якія ахоўваліся дзяржавай, адбылося з прыняцьцем аблвыканкамамі і менскім гарвыканкамам на пачатку 90-х гадоў сьпісаў помнікаў мясцовага значэньня.

Апошнім у шэрагу прававога афармленьня справы аховы помнікаў у нашай краіне можна назваць Закон Рэспублікі Беларусь «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны», прыняты ў 1992 годзе.



Праект рэстаўрацыі Малога гасьціннага двара, помніка архітэктуры XVIII ст., 1982 год

Хаця б павярхоўны агляд матэрыялаў, датычных тэмы захаваньня спадчыны, дазваляе казаць пра актыўную прысутнасьць у ёй дзяржавы. Аднак жа відавочным зьяўляецца і тое, што за доўгія гады дзяржава так і ня выпрацавала трывалай сыстэмы, якая б надзейна бараніла помнікі даўніны ня толькі ад пашкоджаньняў, але і ад зьнішчэньня. Так было ў мінулыя гады. Такая тэндэнцыя захоўваецца і сёньня. Больш за тое, сама ж дзяржава зьяўляецца ці не найпершым разбуральнікам помнікаў. Абсурдная сытуацыя: з аднаго боку дзяржава робіць дэкляратыўныя захады дзеля абароны нацыянальнай спадчыны і ў той жа час яна практычна руйнуе старасьвецкія мураванкі.



Стары Менск, 1981 год, здымак Зянона Пазьняка

Ужо нават генэральная пракуратура Беларусі выказвала трывогу з нагоды парушэньня заканадаўства аб ахове спадчыны, што адбывалася не без удзелу Дзяржаўнай інспэкцыі Рэспублікі Беларусь па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і яе старшыні Д.Бубноўскага. Немалая чарада незаконных дзеяньняў дзяржінспэкцыі змусіла пракуратуру яшчэ ў ліпені 1995 году накіраваць у Кабінэт міністраў адпаведную інфармацыю і паставіць «пытаньне аб адпаведнасьці Д.Бубноўскага займанай пасадзе».

Старшыня Дзяржаўнай інспэкцыі, чалавек дасьведчаны, дзейнічаў паводле прынцыпу «нападзеньне — лепшы спосаб абароны». Адразу ж на імя прэзыдэнта Беларусі ім быў напісаны ідэалягічна правільны ліст, дзе сп.Бубноўскі прадстаўляе сябе ці не адзіным рупліўцам аховы помнікаў даўніны, прасякнутым клопатам пра старасьвеччыну, але «без уплыву вельмі небясьпечных для гісторыка-культурнай спадчыны палітычных страсьцяў». Дастаецца ў лісьце і пракуратуры за бязьдзейнасьць з прычыны нерэагаваньня на сыгналы ДЗІНАС, хаця пракурорскія работнікі не шкадуюць сілаў на разгляд зваротаў, «арганізаваных пэўнымі асобамі (якія не вылучаюцца павагай да Закону, але прэтэндуюць на ролю грамадзкіх і палітычных лідэраў)». Як вынікае зь ліста, пракуратура клапацілася не пра захаваньне заканадаўства, а мела «мэтай расчыстку шляху пэўным палітычным лідэрам, што не адбыліся, правядзеньне іх адрынутай грамадзтвам псэўданацыянальнай палітыкі праз дзяржаўныя органы і ўстановы».

Няма на пасадзе генэральнага пракурора сп.Капітана, які накіраваў на адрас Кабінэту міністраў прадстаўленьне зь непрыемнай для старшыні ДЗІНАС высновай аб неадпаведнасьці яго займанай пасадзе. Аднак па-ранейшаму старшынюе над аховай спадчыны Д.Бубноўскі, таксама ж, як і раней, працягваюць зьнішчаць у гістарычных гарадах старыя мураванкі.

Быў яшчэ і «адкрыты ліст старшыні Савету міністраў Рэспублікі Беларусь С.Лінгу па праблеме захаваньня гісторыка-культурнай спадчыны сталіцы Беларусі, гораду-героя Менску», які падпісалі 38 дзеячоў літаратуры, мастацтва і навукі. Сярод пералічаных у лісьце менскіх адрасоў, дзе некалі стаялі аўтэнтычныя помнікі архітэктуры, варта засяродзіцца на двух, дзе апошнім часам дарэшты зьнішчылі прыкметы старой забудовы.

У дачыненьні да першага зь іх пракуратура Беларусі яшчэ 13.04.95 г. вынесла прадпісаньне аб спыненьні зносу будынкаў на пл.Свабоды, 19, 21. Адзін з ацалелых муроў, падперты мэталічнымі канструкцыямі, прастаяў да пачатку 2000 году. Але ў першыя студзеньскія дні ён быў зьнішчаны тым самым спосабам, як за пяць гадоў перад гэтым — увесь архітэктурны комплекс. Уражвае ня сам факт чарговага вандалізму да помніка дойлідства, а ўласна абгрунтаваньне гэтага незаконнага дзеяньня. У распараджэньні менскага гарвыканкаму №1р ад 4 студзеня 2000 году запісана літаральна наступнае: «Разгледзеўшы ліст Камітэту па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ад 03.01.2000 №06/1 (параўнайце даты: зайздросная апэратыўнасьць) аб актывізацыі работ па аднаўленьні комплексу дамоў

## Важнасьць аднаго дня

*На Ўсходзе незадавальненьне выказваюць на кухнях, на Захадзе — на вуліцах. Папулярызатарам «эўрапейскасьці» варта захаваць здымкі, зробленыя на менскіх акцыях пратэсту другой паловы 90-х. На дэманстрацыях — не на мітынгах, а ў руху — Менск у сораме і нянавісьці рабіўся сталіцаю Беларусі.*

*Хапун (слова 90-х) на плошчы Свабоды, прабіты дубіналам (або інтэгратарам — таксама слова 90-х) абраз Маці Божай Чарнобыльскай работы Алеся Марачкіна, 200 прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, інтэрнаваных на Акрэсьціна ў красавіку 1996 году, каб Чарнобыльскі Шлях не перайшоў у рэвалюцыю 1 траўня, «Дарагія мае масквічы» Касі Камоцкай, «Мы партызаны, лясныя браты» Лявона Вольскага, касманаўты ў блакітных камбінэзонах. А лёзунгі, што ўвойдуць у падручнікі беларускай паэзіі: спачатку «луку на муку», пасьля «радзіма, свабода, далоў лукуурода». Жывая гісторыя.*

*Чаго мы гэтым дабіліся? Зразумелі, што індывідуалізм не выключае салідарнасьці і мабілізацыі, тады як славуты калектывізм іх якраз не прадугледжвае.*

*Мы стваралі самыя харошыя дні Менску XX стагодзьдзя. Па-над усім, па-над сымбалямі і выпрабаваньнямі, гістарычныя дэманстрацыі другой паловы 90-х былі найперш выключнымі праявамі прыгажосьці. Хочацца пераглядаць і пераглядаць тыя фотаздымкі.*

*Нічым гісторыя так не даражыць, як хараством. І хараство стваралі мы.*

*Чакаючы чарговага Маршу, разумееш важнасьць аднога-адненькага дня. Як шмат можа вырашыць проста дождж або проста сонца. Проста намаганьне аднаго чалавека.*

**Андрэй Дынько**

# ВЯЛІКАЯ КАСТРЫЧНІЦКАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ

*(тэзісы да «Маршу Свабоды-2»)*

Славамір АДАМОВІЧ




У часы пераменаў іншы раз бывае цяжка адрозьніць сьмех ад плачу, сьлёзы ад расолу, вячэрні фал палюбоўніка ад ранішняй вэртыкалі аматара піва. Блукаючы па памежжы эпох і цывілізацыяў, людзі асьцерагаюцца пакідаць дзірван продкаў і проста панічна баяцца ступаць у сьвежую ральлю будучыні. Людзі пераменнага часу блытаюцца ў сымбалях, словах, сэнсах, зьместах... Але Прырода ня церпіць блытаніны. І тады прыходзіць Рэвалюцыя — каб усталяваць новую гармонію, новую клясыфікацыю, новую гіерархію.

### 1995 год

Красавік-травень: ганебны фільм, ганебны рэфэрэндум. Ціцянкоў ірве нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг. Беларускіх патрыётаў звальняюць з ВНУ, школаў, органаў улады і газэтаў.

### 1996 год

Год радыкальнага пералому. Усё пачалося па-сапраўднаму: вулічныя баі зь міліцыяй і спэцпадразьдзяленьнямі, параненыя з абодвух бакоў, арышты, сухія і мокрыя галадоўкі палітычных вязьняў, пратэсты сусьветнай супольнасьці, эміграцыя па палітычных матывах... Летам 96-га, знаходзячыся за межамі Беларусі, Зянон Пазьняк загаварыў пра нацыянальна-вызвольны рух. Маладая Беларусь на поўны голас загаварыла пра нацыянальна-вызваленчую рэвалюцыю.

### Ад НВР да НВР

Зянон Станіслававіч не зманіў і не памыліўся, калі сказаў пра нацыянальна-вызвольны рух. Ён проста спазьніўся гадоў на 8-10. Рэч у тым, што якраз у 1996-м эпоха Нацыянальна-Вызвольнага Руху (НВР) завяршылася. За 10 гадоў, калі за пункт адліку браць 1986-ы, нават самыя моцныя целам і духам маглі прыстаць. Слабейшыя прысталі дакладна. Рэванш акупацыйна-марыянэтачнага рэжыму Лукашэнкі спляжыў шмат якія заваёвы папярэдняга дзесяцігодзьдзя: беларускамоўныя садкі і школы, напрыклад. Аднаўляць іх ва ўмовах акупацыі няма жаданьня. Але хоць і стомленыя, дзесьці нават дэмаралізаваныя, людзі нашыя разумеюць, што яны народ занадта ваяўнічы, каб не супраціўляцца злу гвалтам. Няма ў беларусаў і свайго Майсея, і сарака гадоў у запасе няма, каб сноўдацца па пустэльні (у нашым выпадку — па асушаных балотах). Вось чаму зь вясны 1996 году пачынаецца адлік новай эпохі — эпохі Нацыянальна-Вызвольнай Рэвалюцыі (НВР).

### Сымболіка лічбаў і месца

Сымбалічнае месца, дзе перадавыя шэрагі маладых дэманстрантаў 17 кастрычніка ўступілі ў бой зь міліцыяй — скрыжаваньне вуліцаў імя Пуліхава і Першамайскай. Варта нагадаць, што Іван Пуліхаў па заданьні падпольнай сацыял-рэвалюцыйнай (эсэраўскай) групы разам з таварышкай па партыі А.Ізмайловіч 14 студзеня 1906 году зрабілі замах на менскага губэрнатара Курлова, які 18 кастрычніка 1905 году расстраляў мітынг рабочых на менскім чыгуначным вакзале.

Паводле прысуду трыбуналу Пуліхава павесілі. Для пастраху менчукоў ужо мёртвае цела кінулі на браму турмы, на якой яно знаходзілася 4 дні. БелСЭ не паведамляе, што гэта за турма і дзе судзілі героя.

### Варштаты Рэвалюцыі

Каб зразумець настрой беларускай патрыятычнай моладзі, варта зазірнуць у «НН» на паласу «Варштаты». Вось радкі зь некаторых вершаў.

Вадзянік Няміскі:

*«І ўлады нашы не ад бога —*
*Расплата іх не абміне.*
*Ня трэба слухаць больш нікога,*
*Бо на вайне як на вайне!»*

Макс Багдан:

*«І пачвараў сячы двухгаловых,*
*Каб галоў не пладзілася больш.*
*Прагані псэўдародныя мовы*
*Старшабрацкіх расеяў і польшч».*

### Дзеці Кастрычніка

Тры хлапчукі дапамагалі мне 17-га ад самага пачатку «Маршу». На кароткім мітынгу ў парку Дружбы народаў да нас падыйшлі дзьве настаўніцы, параілі сваім вучням быць асьцярожнымі, не забывацца пра ўрокі. Ідучы па вуліцы Багдановіча, хлапчукі ўспомнілі, што хацелі есьці. Забеглі ў краму, купілі булачак і газіроўкі. Маладыя арганізмы патрабавалі дадатковай энэргіі. На Першамайскай яна зьліецца з энэргіяй кінутага каменя.

### Магія слова

Рэвалюцыя! — і напінаецца прэс жывата, цьвярдзеюць цягліцы, адмабілізоўваецца інтуіцыя, вастрэе розум, зьяўляецца апэтыт...

Рэвалюцыя — слова крывавае, як калядная сьвежына.

Таварыш! — чуеш ты вокліч за сьпінаю і ўжо менш напружваесься, набываеш надзею, верыш у перамогу... Рукі ў замок, таварыш, будзьма разам! Страху няма. Мы — рэвалюцыя!

Піянэр — гэта дасьледчык, гэта той, хто пачынае першы, першаадкрывальнік. 17 кастрычніка тысячы ўдзельнікаў «Маршу Свабоды» сталі піянэрамі Беларускай Нацыянальна-Вызвольнай Рэвалюцыі. Нашчадкі назавуць яе Вялікай Кастрычніцкай.

# ХАПУН

***Гэты ліст быў напісаны яшчэ ў 1997 годзе. Тады яго не надрукавала ніводная з газэтаў. Мы падаем яго цяпер, перад трэцяй гадавінай аднаго з найстрашнейшых хапуноў эпохі Лукашэнкі, калі менш чым за гадзіну на плошчы Свабоды арыштавалі больш за 150 чалавек.***



14 сакавіка 1997 году мы разам зь сяброўкай Тамарай Мурашкай праходзілі па плошчы Свабоды, маючы намер адведаць хлопчыка, які перастаў наведваць садок, дзе мы працуем выхавацелькамі. Мы несьлі для яго купленыя на сабраныя грошы адзеньне і іншыя рэчы, але нас невядома за што схапіла міліцыя. Нас пабілі дубінкамі, з нас зьдзекаваліся, пасьля адвезьлі ў Кастрычніцкі РАЎС. Тут мы па поўнай праграме прайшлі ўвесь пачварны шлях пастаноўкі на ўлік у якасьці злачынцаў. 17 сакавіка 1997 г. мы былі асуджаныя: я атрымала яшчэ 5 сутак пазбаўленьня волі, а мая сяброўка — 2,5 млн. штрафу.

Так я сутыкнулася з нашай праваахоўна-судовай сыстэмай, якая робіць розныя хітрыкі і падтасоўкі з мэтай асудзіць чалавека, які ня мае ніякай віны. Ад гэтага вар'яцтва ў мяне расплюшчыліся вочы.

Людцы мае! Пражыўшы столькі гадоў, я толькі цяпер зразумела, што ў мяне няма Радзімы, што я ніхто. Мяне без усялякіх падставаў могуць забраць у міліцыю, зьняславіць, аштрафаваць, кінуць за краты... І ўсё гэта **абсалютна беспакарана**. Гарылы ў форме і безь яе становяцца гаспадарамі нашай зямлі.

Цяпер я зразумела тых людзей на вуліцах і плошчах — яны не дарэмна бавяць час, а адчайна змагаюцца за наша з вамі лепшае жыцьцё, ахвяруючы сабою за нашу родну Бацькаўшчыну — Беларусь. Ды каб раней хто-небудзь сказаў мне, што я пайду запісвацца ў Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне», я б яму выдзерла ўсе вочы, паколькі такое немагчыма было нават уявіць. Але цяпер, прайшоўшы праз гэткую калатнечу, я запісалася туды разам зь сяброўкай і лічу, што гэта павінен зрабіць кожны сумленны чалавек.

Я зразумела, што можна ўсё жыцьцё мітусіцца, працаваць на дзьвюх-трох работах, пакуль хопіць здароўя, ці вынаходзіць іншыя шляхі для паляпшэньня стану існаваньня сям'і, але гэта ўсё роўна нічога ня вырашыць.

Я зразумела, як я памылілася, калі аддала свой голас спачатку за А.Лукашэнку, а затым за ягоную канстытуцыю на рэфэрэндуме 1996 г. Таму я маю зараз поўнае права выказаць свае думкі аб ім.

Я забіраю свой голас назад! Яжовыя рукавіцы пара надзяваць нам, жанчынам, таму што ўсе нашы мужыкі паступова ператвараюцца ў жабракоў, бамжоў і п'яніц, а мужыкі з нармальнымі мазгамі сядзяць за кратамі. Беспадстаўна адседзеўшы за кратамі, уражаная пакутамі нявінных маладых людзей, я адчула, што мая рука ператварылася ў кулак. Вось так!

**Беспадстаўна пакараная Валянціна Мазанік, выхавацелька ў дзіцячым садку, Менск**

# КАЛЯБАРАНТ

*У «Анталёгію ўчынку»*

Увесну, з прыходам сонечных дзянькоў, кожны чалавек адчувае прыліў сіл, жаданьне нешта рабіць, кардынальна мяняць у сваім жыцьці. 67 гадоў таму, у 1943 годзе, адбылася акцыя, якая мела тады вялікі рэзананс для Беларусі: гэта не чарговае забойства нямецкага высокага чыноўніка, не перамога саюзьнікаў пад чарговым Табрукам, нават Хатынь была на два тыдні пазьней. 7 сакавіка 1943 году зьезд кіраўнікоў Беларускай Народнай Самапомачы (БНС) запатрабаваў ад нямецкіх акупацыйных уладаў *незалежнасьці Беларусі.*

Беларуская Народная Самапомач была створаная немцамі ў кастрычніку 1941-га як грамадзка-сацыяльная арганізацыя, якая мусіла займацца выключна сацыяльнымі пытаньнямі, аховай здароўя насельніцтва, дапамогай пацярпелым ад вайны. Узначаліў БНС лекар з Прагі, дзеяч беларускага нацыянальнага руху, доктар Іван Ермачэнка.

На першым часе так і адбывалася, БНС займалася тым, што і пляналі немцы. Але паступова ейная дзейнасьць ахапіла ўсе сфэры грамадзка-культурнага жыцьця. У чэрвені 1942 г. канчаткова фармуецца Цэнтраль БНС, якая складалася зь некалькіх аддзелаў. Вось пералік найбольш значных і дзейных: *аддзел палітыкі, аддзел адміністрацыі, аддзел судоўніцтва, аддзел культуры, аддзел школьніцтва, аддзел Корпуса Самааховы.* У ліпені 1942 г. адбыўся зьезд акруговых кіраўнікоў Самапомачы, на якім казалася пра посьпехі арганізацыі, якая з сацыяльна-дапаможнай ператварылася ў сапраўды нацыянальную арганізацыю, у якую мог зьвярнуцца кожны і атрымаць дапамогу. Дзякуючы намаганьням БНС 27 ліпеня 1942 г. немцамі ў якасьці афіцыйнай сымболікі былі зацьверджаныя бел-чырвона-белы сьцяг і герб Пагоня.

4 сакавіка 1943 г. пачаў працу чарговы зьезд кіраўнікоў БНС, на якім 7 сакавіка быў прыняты мэмарандум да Генэральнага Камісара Беларусі Вільгельма Кубэ. У мэмарандуме патрабавалася:

*1. Акрэсьліць ідэалягічную і структурную падставу пабудовы Беларусі ў Новай Эўропе, прызнаючы яе незалежнасьць.*

*2. Неадкладна стварыць для аб'яднаных беларускіх земляў нацыянальны ўрад з Прэзыдэнтам Беларусі, старшынёй Ураду і з кіраўнікамі наступных аддзелаў: унутраных справаў, палітычных справаў, фінансаў, гаспадарчага, культуры і асьветы, вайсковага, юстыцыі, аховы здароўя і сацыяльнага забесьпячэньня. Гэты Ўрад абвесьціць аддзяленьне Беларусі ад Савецкага Саюзу і аб'явіць яму вайну як ворагу беларускага народу, які пасягае на ягоную незалежнасьць.*

*3. Адпаведна з гэтым належыць арганізаваць уладу на мясцох.*

*4. Адмяніць дзеяньне бальшавіцкага закону аб нацыяналізацыі нерухомасьці.*

*5. Для ўтрыманьня супакою, ладу і парадку ў краі і барацьбы з агульным ворагам — бальшавізмам — арганізаваць Беларускую Нацыянальную Армію і забясьпечыць яе зброяй і амуніцыяй.*

*6. Дазволіць сьцягнуць неаб-*

# Практыкаваньне ў эзопавай мове

Гэтая гісторыя адбылася тады, калі ў нашай краіне не існавала незалежных газэт, затое існаваў злавесна-змрочны інстытут «галаўлітаў». Для зусім маладых чытачоў патлумачу, што галаўліт — гэта такі цэнзар-кагэбіст, які сядзеў пры кожнай рэдакцыі ці Доме друку і ўважліва прачытваў кожны нумар кожнага выданьня. Ён адсочваў, каб у друк ня трапілі вайсковыя сакрэты, а таксама «апалітычнасьць». (Насамрэч дагэтуль ня ведаю, як расшыфроўвалася абрэвіятура «галаўліт». Галаўны літаратар, ці што?)

Вось жа, пра шмат якія рэчы нельга было сказаць простымі словамі. Напрыклад, «я не люблю камуністычнай партыі» або «які прыгожы наш бел-чырвона-белы сьцяг!». І зусім не рука галаўліта выкрэсьліла б гэтыя фразы, і нават не рука галоўнага рэдактара. Свая ўласная не паднялася б іх напісаць. Ад тае хвіліны, як нехта пачынаў адчуваць сябе дысыдэнтам, «нацыкам», нязгодным, ён засвойваў майстэрства алюзіяў ды алегорыяў. Нам, студэнтам, гэта нават і цікава было. Такая сабе кампутаравая гульня, дзе на першым узроўні трэба прайсьці загадчыка аддзела, на другім — стыльрэдактара... На апошнім, вядома ж, падпільноўваў сам «д'ябал». Затое колькі радасьці было, калі ты атрымліваў прыз — газэту з надрукаваным артыкулам! А ў якасьці *prize-game* — змоўніцкія позіркі сяброў. Маўляў, мы заценілі загаловак «Яркі агонь сярод ночы» і разумеем, пра якую гэта ноч ідзецца...

Але ўсё гэта прыказка. Казка пачынаецца адсюль. Дакладней, показка.

У 1984 годзе, калі Беларуская Сьпеўна-Драматычная Майстроўня існавала ўжо каля чатырох гадоў, мы атрымалі запрашэньне наведаць Маладэчна. У адным з рабочых інтэрнатаў гэтага мястэчка сарганізавалася група беларускіх энтузіястаў, якая ладзіла там нацыянальныя імпрэзы і мела адпаведна абсталяваны пакой зь немудрагелістай назваю «Беларуская хатка». На адну з такіх імпрэзаў мы й выправіліся — ці то як госьці, ці то як паўнамоцныя прадстаўнікі сталічнага «падзямельля» з інспэкцыяй раённай філіі. «Шчыгулаў» тае вечарыны ня памятаю (магчыма, яна прысьвячалася Язэпу Драздовічу), але адзінае, што нас сапраўды ўразіла — гэта лідэр маладэчанскіх беларусаў, малады токар Міхась Казлоўскі. Энэргічны, вельмі начытаны і вельмі ўпарты, ён адзін там усіх заводзіў, і ўсё на ім трымалася.

І вось пра гэты інтэрнат і пра Міхася мне трэба было напісаць у газэту, дзе я тады працавала, — у «Чырвоную зьмену». Мне было 22 гады, майстроўскі стаж — два з паловай гады. Юнацкі рамантызм, памножаны на ўзбуджальнасьць нацыяналісткі-нэафіткі, спарадзілі пад дваццаць старонак тэксту. Нарыс называўся «Краявід са званіцай» (назва, безумоўна, была наскрозь алегарычная, дый увесь артыкул быў густа нафаршаваны мэтафарамі, кшталту «чырвона-белай усьмешкі вечнасьці»). Сапраўды, без усьмешкі сёньня з таго артыкулу і зацытаваць няма чаго. Хіба адзін абзац — дзеля ілюстрацыі, наколькі наіўнай ды бяскрыўднай была тады нашая беларушчына.

«Я ўпэўнена: калі б у «Беларускую хатку» прыйшоў чалавек, абсалютна не знаёмы з тым, што называем мы словам «Беларусь», калі б ён уважліва прачытаў і перагледзеў усе стэнды, малюнкі, усе рукапісныя газэты, то агульнае ўяўленьне атрымаў бы самае грунтоўнае. Усе асноўныя этапы нашай гісторыі прыблізна за тысячу гадоў (гэта, натуральна, ізноў намёк — на забароненае сьвяткаваньне тысячагодзьдзя Беларусі. — *В.К.*) тут адлюстраваліся. На стэндзе «Слава твая, Беларусь» — выявы людзей, якімі наш народ ганарыцца: ад Вітаўта да Клімука... Рэпрадукцыі лепшых мастацкіх твораў, кадры зь лепшых спэктакляў, сучасны пэрыядычны друк Беларусі — усё тут».

Вось, здавалася б: чаму гэтыя цнатлівыя ручнічкі-валошкі так разьюшвалі кампартыйных ідэолягаў? Відаць, мелі-такі яны талент Касандры й добра адчувалі розьніцу паміж санкцыянаваным ды стыхійным. Зь несанкцыянаванага ручнічка заўсёды нешта магло вылезьці...

Карацей, артыкул надрукавалі. Мне, як аўтарцы, глыбокую сатысфакцыю прынесла хвіга, схаваная паміж двума абзацамі, першы зь якіх сканчаўся фразай «гэта было балота», а другі пачынаўся словамі «сучасная беларуская літаратура».

А праз колькі месяцаў вярнуўся са службы ў Нямеччыне Сяргей Шупа і прывёз мне ў падарунак нейкую касэту. Праслухаць не было на чым — у мяне на той час меўся толькі шпулёвы «Маяк», вяршыня савецкай тэхнікі. Пазычыўшы ў сяброваk касэтовік, я позна ўночы зачынілася ў сваім пакоі. І пачула з касэты голас, ад якога па сьпіне пабеглі мурашкі. Мусіць, усе, колькі іх там было, выбеглі з мурашніка. Голас быў выразна несавецкі, нават падкрэсьлена-антысавецкі, а гаварыў ён пра мой артыкул.



«Трэцяга чэрвеня гэтага году газэта «Чырвоная зьмена» надрукавала нарыс журналіста Яфіменкі аб аматарах адраджэньня беларускай нацыянальнай культуры ў горадзе Маладэчне... Краявід са званіцай — сымбаль нацыянальнай культуры, якой прагнуць мільёны людзей на Беларусі...»

У мяне высахла ў роце. Я адчула сябе радысткай Кэт, чыя шыфроўка трапіла па прызначэньні. Голас працягваў:

«Клюб у рабочым інтэрнаце — не вялікая падзея ні для заводу, ні тым больш для рэспубліканскай прэсы. Дый сам клюб маленькі — адзін пакой. Але — з сакрэтам... Народ, пазбаўлены сваёй культуры, параўноўваецца з рэчкай, якой перарэзала шлях штучная дамба. Сымболіка тут нескладаная... За стварэньнем маленькага клюбу ў Маладэчне стаіць цэлая філязофія нацыянальнага адраджэньня беларусаў... Задачу гэтую, наагул нялёгкую, асабліва цяжка вырашыць ва ўмовах Савецкага Саюзу... Але нарыс поўны аптымізму. Справа, якой займаюцца ў Маладэчне і, я думаю, ня толькі ў Маладэчне, падаецца як нешта надзвычай абнадзейвальнае, і ўсе аматары яе, паводле нарысу, сьвецяцца радасьцю...»

Што праўда, то праўда. Я адчувала, што «засьвяцілася», і вельмі ярка. Нават на ўсялякі выпадак выключыла ў пакоі сьвятло. Хаця наўрад ці заснула ў тую ноч — калі ўпершыню ў жыцьці пачула перадачу радыё «Свабода».

Касэту я доўгі час хавала нават ад блізкіх сяброў. Нядаўна знайшла яе глыбока ў шуфлядзе, вось і пацягнула на ўспаміны. Наагул, шмат цікавага было ў часы Майстроўні, хоць ты раман пішы, хоць анэкдоты.

Адзінае, чаго б мне не хацелася пісаць ніколі — гэта падручніка па эзопавай мове.

**Віялета Кавалёва**

*ходныя нацыянальныя сілы, якія знаходзяцца за граніцамі Беларусі.*

*Пасьля правядзеньня вышэйпаказаных мерапрыемстваў беларускі народ гварантуе:*

*а) поўнасьцю выкарыстаць для мэтаў вайны рэсурсы, якія маюцца на Беларусі,*

*б) поўную ахову дарог,*

*в) поўнае выкананьне ваенных паставак,*

*г) зьнішчэньне бандытызму на Беларусі,*

*д) актыўны ўдзел у барацьбе з ворагам на фронце.*

*Старшыня Зьезду, Галоўны кіраўнік БНС Ермачэнка.*

Немцаў мэмарандум узлаваў, яны яшчэ не цярпелі сакрушальных паразаў і ня мелі патрэбы ў паслабленьні акупацыйнага рэжыму на захопленых тэрыторыях. БНС была абвінначаная ў неразуменьні нямецкай палітыкі і прынцыпаў Новай Эўропы, рэарганізаваная, нават была зьмененая назва, каб нішто пра яе не напаміналa, і пачала займацца толькі сацыяльнымі пытаньнямі. Доктар Ермачэнка быў пазбаўлены пасады кіраўніка БНС (падставай сталася абвінавачаньне ў спэкуляцыі прадуктамі харчаваньня) і высланы ў Прагу пад нагляд гестапа. Што яго ўратавала ад бальшавіцкай кулі, якая наўрад бы яго мінавала. Фактычна БНС спыніла існаваньне.

Але акцыя БНС мела важкае значэньне. Яшчэ пры поўнай дамінацыі немцаў на Ўсходнім фронце (нават нягледзячы на паразу пры Сталінградзе), у змрочную безнадзейную вясну 1943 г. выступ доктара Ермачэнкі і сяброў Беларускай Народнай Самапомачы быў грамадзянскім учынкам.

**Алег Гардзіенка**




# ЮБІЛЕЙНЫ «АГЛЯД»

Няхай толькі 5 гадоў найлепшаму беларускаму часопісу па гісторыі, але якія гэта былі гады! Уступ «Ад рэдакцыі» на пачатку апошняга нумару «Беларускага гістарычнага агляду» — гэта ў сутнасьці кароткая справаздача перад чытачом. 116 аўтараў выступілі са сваімі ідэямі, зь іх больш за траціну — з-за мяжы. Ці не пара перdesignate назваць БГА ў міжнародны часопіс? Тым больш, што ён нарэшце займеў свой нумар у інтэрнацыянальнай сыстэме нумарацыі пэрыёдыкаў (ISSN). Салідна. Юбілейны настрой крыху псуе памылка ў нумарацыі сшыткаў на карэньчыку юбілейнага нумару. Па агульным ліку ён мае быць №10—11, а ня 9—10.

Як заўсёды, часопіс імкнецца да шырокага ахопу гістарычных тэмаў. Нумар распачынае польскі дасьледнік Пётр Кроль артыкулам «Беларуская кампанія 1654 г. (да бітвы пад Шапялевічамі)».

Юры Кітурка асьвятляе «беларускае пытаньне» ў палітычнай канцэпцыі Юзафа Пілсудзкага ў 1899-1908 г. Кірыл Маль дасьледуе антыбальшавіцкі рух у Беларусі ў 1919-1921 г. На жаль, не прыгаданая праца яго папярэдніка ў вывучэньні тэмы — Юркі Віцьбіча, ягоная кніга 1996 году «Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі». Можа, яна не зусім навуковая, у нечым састарэлая, ня мае матэрыялаў з савецкіх архіваў, але ж адна зь першых. Трэба шанаваць. Яшчэ раз праявіліся цяжкасьці ў перакладзе на нашу мову савецкіх скарачэньняў. У артыкуле прапануецца напісаньне УЧК, што выглядае дзіўным спалучэньнем беларушчыны з расейшчынай. Можа, усё ж пакінуць як было ў Маскве — ВЧК, КГБ і г.д.?

Наступны традыцыйны разьдзел БГА — «Паведамленьні». Тут маем працы Андрэя Партнова «Этнічныя пытаньні гісторыі ВКЛ у сынтэзах і падручніках па гісторыі Украіны» (зноў крыўдзяць або не заўважаюць беларусаў!), Юр'я Вашкевіча «Вобраз Беларусі і беларусаў у польскай мэмуарнай літаратуры 1945—1991 г.» (яшчэ горш, як ва ўкраінцаў), Аляксандра Гужалоўскага і Сяргея Каўна «Internet для гісторыкаў».

У рубрыцы «Новыя пэрспэктывы» БГА працягвае прапагандаваць новыя мэтады гістарычных студыяў, гэтым разам жаночую гісторыю, інтэлектуальную гісторыю і мікрагісторыю. Апошняя, здаецца, мае добры шанец расквітнець у нашай беднай на архівы краіне, дзе добра захаваліся дакументы, бадай, толькі па гісторыі рэгіёнаў. Вячаслаў Насевіч за ўзор (бо няма іншых) такога роду беларускіх дасьледаў уважае кнігу Міколы Ўлашчыка «Была такая вёска». Была такая кніга. Яшчэ лепшая — «Вёска Стральцы-Давыдавічы ў гістарычнай традыцыі» Ірэны Матус (тая вёска, праўда, цяпер у Польшчы). Зважаючы на навуковы досьвед і літаратурныя здольнасьці нашага, беларускага боку, трэба чакаць яшчэ лепшых кніг.

Пад рубрыкай «Пераклады» надрукаваны эсэ Рэджынальда Р.Бэтса «Канстытуцыйны працэс і палітычная думка ва Ўсходняй Эўропе» і Макса Шэлера «Чалавек і гісторыя».

Яшчэ ўнёсак у вывучэньне вайны 1654—1667 г. з Масковіяй — падборка (аўтар — Максім Гардзееў) дакумэнтаў з актавай кнігі полацкага магістрату за 1656—1657 гады (тут заўважым, што бахмат — конская парода, а не мянушка). І хто яшчэ будзе казаць, што пра гэтую вайну мала напісана?

Разьдзел «Гістарыяграфія» рэпрэзэнтуе артыкул Андрэя Анушкевіча «Інфлянцкая вайна 1558—1582 г. у савецкай гістарыяграфіі», а ў рубрыцы «Гісторыя і гісторыкі» пададзеныя мэмуары масквічкі Ганны Харашкевіч пра Міколу Ўлашчыка (даволі незьмястоўныя), нарыс зноў жа Андрэя Партнова «Леў Акіншэвіч — гісторык украінскі і беларускі». Наконт апошняга аўтару падаецца, што ў беларускай гістарыяграфіі пра яго нічога не напісана. Але не такія мы ўсё ж няўдзячныя суайчыньнікі, каб зусім забыць знанага ў ЗША нашага гісторыка. Ёсьць пра яго артыкулы і ў «Энцыклапэдыі гісторыі Беларусі», і ў «Беларускай энцыклапэдыі», і ў часопісах («Спадчына»), і ў зборніках артыкулаў.

Што думае пра Беларусь нямецкі гісторык, можна даведацца з інтэрвію з Маціясам Ніендорфам. Што думаюць пра гістарычныя кнігі нашы навукоўцы, бачна ў разьдзеле «Новая літаратура: агляды і рэцэнзіі» (аказваецца, у нас чытаюць нават па-літоўску, але гэта, здаецца, адзіны выпадак).

Сумны разьдзел «In memoriam» прысьвечаны сьветлай памяці заўчасна памёрлага Міхася Біча.

У цэлым жа «Беларускі гістарычны агляд» па-ранейшаму высока трымае планку кваліфікаванасьці і проста прыемнага чытаньня.

**Валеры Пазьнякоў**

## «Гліняны Вялес» — Міколу Папеку

Таварыства Вольных Літаратараў абвесьціла, што прэмію ТВЛ за лепшую беларускую мастацкую кнігу 1999 году «Гліняны Вялес» сёлета атрымае паэт-пчаляр з Пружаншчыны Мікола Папека за свой першы паэтычны зборнік «Чарнавікі...» Уручэньне прэміі адбудзецца 18 сакавіка а 15 гадзіне ў полацкім музэі-бібліятэцы імя Сімяона Полацкага. У гэты самы дзень у музэі адбудзецца прэзэнтацыя паэтычнага зборніка полацкай паэткі 20-х гадоў Ганны Брэскай «Настурцыі», што выйшаў у сэрыі «Бібліятэка часопіса «Калосьсе».

Васіль Кроква

## Газэта мястэчка Ракаў

Выйшаў з друку першы нумар газэты «Ракаўскі шлях». Заснаваў і рэдагуе яе прафэсар БДУ, прэзыдэнт міжнароднага Купалаўскага фонду Вячаслаў Рагойша. Ракаў праслаўлены геніем Купалы і «Народным альбомам». Ангельская паэтка Вера Рыч прысьвяціла Ракаву верш, дзе называе гэтае мястэчка «Паўночна-Ўсходнімі Атэнамі». «Ракаўскі шлях» мяркуе знаёміць чытачоў з гісторыяй і прыродай краю. Выходзіць «Ракаўскі шлях» будзе штомесяц.

## Брацкая вечарына



Брацтва праваслаўнае моладзі імя Канстанціна Астроскага наладзіла вечарыну памяці Ўладзімера Караткевіча, якому сёлета магло б споўніцца 70 гадоў. У прыбудове да царквы сьвятых Пётры й Паўла, што на Нямізе, выступілі Рыгор Барадулін, бард Алесь Камоцкі, тэатар «Зьніч». Самі братчыкі паказалі інсцэніроўку з раману Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім». Гледачоў было за сотню.

## Надзейныя грошы

У Нацыянальнай бібліятэцы адчынілася выстава «Грошы Літоўскай Рэспублікі». На ёй прадстаўленыя каля 60 памятных і юбілейных манэтаў, якія выпусьціў Літоўскі манэтны двор за часоў незалежнасьці. Шмат на іх і пэрсанажаў беларускай гісторыі.

## Адамовіч ад'яжджае

У сядзібе БНФ прайшоў разьвітальны творчы вечар Славаміра Адамовіча, які неўзабаве мае зьехаць на год у Злучаныя Штаты. Творы паэта чытаў актор тэатра «Дзе-я» Мікола Казачонак. Сьпявачка Вікторыя Ільлінская, што рыхтуе да выхаду альбом рамансаў на вершы Славаміра Адамовіча, выканала пару зь іх, а маці паэта, спадарыня Юзэфа, прасьпявала цудоўную калыханку, якую склала для ўнукаў, на верш сына пра «Сашку-прэзыдэнта».



Юрась Барысевіч

## Стыпэндыя Дамейкі



Карэліцкі райвыканкам устанавіў стыпэндыю для таленавітых школьнікаў раёну ў гонар славутага земляка, нацыянальнага героя Чылі Ігната Дамейкі, 200-годзьдзе нарадзінаў якога хутка будзе адзначацца.

## Усходні экспрэс

19 траўня з Партугаліі адправіцца літаратурны экспрэс «Эўропа—2000», які аб'едзе 12 эўрапейскіх краінаў. У Беларусі ён прыпыніцца ў Берасьці. Ад Беларусі на даромшчыну паедуць Вольга Іпатава, Леанід Дранько-Майсюк і Андрэй Федарэнка.

## Помнік Гашкевічу

Шчыраваньнем пасла Пятра Краўчанкі амбасада Беларусі ў Японіі пры дапамозе Расеі зьбіраецца паставіць помнік знанаму надарожніку і навукоўцу, першаму консулу Расеі ў Японіі Язэпу Гашкевічу ў гонар 140-годзьдзя адкрыцьця першага расейскага дыпляматычнага прадстаўніцтва ў Японіі. Улады далі дазвол на ўстаноўку манумэнта работы беларускага скульптара Валера Янушкевіча.

Б.Т.

### жарт



У вагоне
— Гэта ж стары квіток!
— Ну і што? Але ж ён мала ўжываны.

дзёньнік з нутраных войскаў

# ДНІ, НІБЫ КРАКАДЗІЛЫ



Я — жаўнер нутраных войскаў, спадкаемца слаўнага НКВД. Рэжым яўна штурхае на шчыльнейшую калябарацыю. Чорт яго ведае, якім чынам гэта гукнецца надалей.

Дні паляцелі, нібы шалёныя кракадзілы сноў Зыгмунда Фройда. Першага часу стала на тое, каб ясна ўцяміць, што навокал адно цырк на дроце. Дарослыя людзі з сур'ёзным выглядам займаюцца ўсялякай бздурай. Кшталту стаяньня зьвязу перад сталоўкай «на зважай». Шыхтавая падрыхтоўка была адным з найгалоўных элемэнтаў курсу маладога байца (КМБ). І вось мы ўжо аўтаматычна рухаемся толькі шыхтавым парадкам.

Калі некаторыя вайскоўцы, кажуць, за ўвесь тэрмін службы ні разу не страляюць, дык нам, жаўнерам нутраных войскаў, мусова мець выбітныя паказьнікі ў агульнай падрыхтоўцы. Найперш дзеля таго, каб у патрэбным часе застрэліць ці хаця б параніць зэкаўцекача. Канвой і ахова зьняволеных — адна з галоўнейшых функцыяў нутраных войскаў. І вось за КМБ нам давялося ажно тры разы выяжджаць на палігон. Я — настаўнік гісторыі і нямецкай мовы — адстрэльваўся на выдатна. Гэта часьцяком выклікала пакепваньні між службоўцаў: «Учыцель, нямецкі зная, пісьмы па-нямецку палучая (сяброўка прыслала ліст і валянцінкі беларускай лацінкай), страляя п...здата. Мабыць ета шпіён якісьці». Шпіёнаманія. Мы запаўнялі мноства анкетаў, якімі нас, што завецца, правяралі на вашывасьць — сувязь з крымінальным сьветам, маладзёвымі групоўкамі (пад гэтую дэфініцыю падпадаюць і БПСМ, і МФ, і РНЕ, і сатаністы).

Шматлікія прагаліны пустога часу запаўняліся напісаньнем лістоў, рамонтам апраткі (дзякуй Богу, што ў нас нямашака шынэляў і гімнастэрак!) ды пуставойцкімі размовамі ні аб чым, дакладней, абы аб чым: жанчыны і сэкс, ежа і гарэлка, войска і «грамадзянка». Апавяданьні пра жанчынаў спрэс парнаграфічныя. Настрой розумаў — чыста патрыярхальны. Ровень адукаванасьці службоўцаў у КМБ агулам даволі нізкі. Усё армейскае жыцьцё ўгрунтаванае на лаянцы і самых брутальных мацюках, почасту аднак вельмі цікавых філялягічна. Размаўляць жа даводзілася па-расейску з ладным ухілам у трасянку. Вось жа і ўчыцель на трасянцы ўмее. Хлопцы ж з нашай роты значнай сваёй часткаю — вяскоўцы. Прэцэдэнтаў кшталту «ты деревня, а я — горожанин» мне назіраць не даводзілася. Хаця сяржанты, бывала, кпілі зь «някаючых» магілёўцаў. Кампанія падабралася рознашорсная. Некаторыя не грэбавалі каўтнуць адэкалёнчыку за нястачай сапраўднай вогненнай вады. Адзін нат дзяліўся сваім цывільным досьведам ужываньня «калёнскае вады»: «Глаўна, каб з вадой не мяшаць, а, выпіўшы, сахаркам заесьць вельмі добра».

У нашай роце 4 чалавекі (разам зы мной) з вышэйшай адукацыяй. Кожны імкнуўся неякім чынам адгарадзіцца ад вясковага сыр-бору. Адзін, юрыст, выпускнік Інстытуту сучасных ведаў, паскардзіўся неяк: «Дома куча праблемаў, жонка цяжарная, а я так мушу хірнёй страдаць. Тупею штодня». Мабыць, і мне было б цяжка ў войску, каб я ня ведаў, хто такі Мартын Гайдэгер.

Ідэалягічна казармы вытрыманыя як мае быць. Вісіць сьцяг, герб драздоўскі, партрэт ППРБ. Ён жа ў сяржанцкім пакоі. Даводзіцца быць маўклівым апазыцыянэрам, каб не наклікаць на сябе загадзя дзедаўшчыну. Калі сам буду дзедам, дык заб'ю вялікі ржавы цьвік на «шакалаў» і буду называць рэчы сваімі імёнамі. Беларускімі. Каб быць тут і ня стацца калябарантам.

Сяржук Балахонаў

## НОВЫЯ КНІГІ, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

**Аняменьне**: З кронікі зьнішчэньня беларускае мовы. — Вільня: Gudas, 2000. — 320 с. — Наклад 500 ас. ISBN 998-6951-82-7

*Аўтары паспрабавалі сабраць матар'ялы аб мэтанакіраванай палітыцы беларускіх уладаў на дыскрымінацыю беларускамоўных і выцісканьне мовы карэннага жыхарства краіны з ужытку й паўсядзённага жыцьця. Асабліва цікавасьць уяўляюць матар'ялы аб змаганьні за захаваньне Беларускага гуманітарнага ліцэю, які неадназова спрабавалі зачыніць улады.*

**Агляд-кроніка парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі ў 1999 г.** — Менск: Цэнтар абароны правоў чалавека «Вясна», 2000. — 132 с. — Наклад 299 ас.

*Вынік працы цэнтру абароны правоў чалавека «Вясна» — фіксацыя злачынстваў рэжыму й дапамога пацярпелым — паўстае на бачынах «Агляду-кронікі...»: зьмест кнігі складаюць матар'ялы зь бюлетэню «Права на волю» й найноўшыя зьвесткі. Кніжыца выдадзена ў беларускай, ангельскай і расейскай мовах.*

А.Болатаў, Г.Рыдзеўскі. **Ахвяруючы сябе Бацькаўшчыне: Аркадзь Смоліч.** — Менск: Тэхналёгія, 1999. — 61 с, (9) арк.іл.; партрэт. — (Нашыя славутыя земляні). — Наклад 1000 ас. ISBN 985-6234-55-7

*Кніга пра славутага беларускага грамадзкага дзеяча, аўтара першага нацыянальнага геаграфіі Беларусі Аркадзя Смоліча. У кнізе шмат фотаздымкаў высокай якасьці.*

**Беларускім героям — народную памяць.** — Менск: спартова-патрыятычная арганізацыя «Край», 2000. — 16 с. — Наклад 299 ас.

*Кніжыца прысьвечаная Слуцкаму збройнаму чыну 1920 г. і сьвяткаваньню «краёўцамі» Дня герояў у Вызьне 27 лістапада 1999 г.*

С.Ёрш. **Беларуская партызанка.** — Менск: спартова-патрыятычная арганізацыя «Край», 1999. — 35 с. — Наклад 299 ас.

*Аўтар падае жыцьцяпісы беларускіх партызан у міжваеннай Польшчы, часу другой нямецкай акупацыі й 1944—48 г. Кніжыца ілюстраваная фотаздымкамі.*

**Абэцэда беларускага нацыяналізму.** — Кніга ня мае выходных зьвестак. — 32 с.

*Кніга прасякнутая ідэяй «беларускага чалавека» й распавядае пра ідэалёгію й асноўныя ўставы беларускага нацыяналізму. Тры апошнія кніжыцы можна замовіць па адрасе 220037, Менск, а/с 49.*

А.Яскевіч. **Абраньне Вечнасьці: Унівэрсалізм традыцыяў і гістарызм сучаснасьці** / Навуковы рэдактар і аўтар пасьляслоўя І.Квін. — Менск: Мастацкая літаратура, 1999. — 319 с. — Наклад 1700 ас. ISBN 985-02-0490-7

*Кніга Алены Яскевіч прысьвечаная «залатому веку» беларускае філялёгіі XV—XVII ст., аналізуюцца асноўныя тэндэнцыі ў працы тагачасных творцаў. Аўтарка захапляецца бізантыйскай і праваслаўнай традыцыямі.*

С.Атенков, М.Григорьева. **В котле НКВД:** Дакумэнтальна-мастацкая аповесьць: Для старэйшага школьнага веку / Мастак В.Масьцяроў. — Менск: Юнацтва, 1999. — 223 с.: іл. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-05-0279-7

*Дакумэнтальна-мастацкая аповесьць пра ролю НКВД у даваенным будзённым жыцьці. Шкада толькі, што не па-беларуску.*

А.Делендик. **Султан Брунея:** Камэдыі: Для старэйшага школьнага веку / Мастак В.Максімаў. — Менск: Юнацтва, 1999. — 206 с.: іл. — Наклад 1500 ас. ISBN 985-05-6376-9

Е.Попова. **Прощание с Родиной:** П'есы. — Менск: Мастацкая літаратура, 1999. — 422 с. — Наклад 1500 ас. ISBN 985-02-0240-8

М.Стригалев. **Vigilia tertia (Третья стража):** Вершы. — Менск: Мастацкая літаратура, 1999. — 357 с.: іл. — Наклад 1300 ас. ISBN 985-02-0100-2

П.Чигринов. **Очерки истории Беларуси:** Навучальны дапаможнік для ВНУ. — Менск: Вышэйшая школа, 2000. — 461 ас. — Наклад 6000 ас. ISBN 985-06-0546-4

*Крытычнае асэнсаваньне мінуўшчыны цяпер праходзіць пад сьцягам змаганьня зь беларускім нацыяналізмам. Нацыянальная канцэпцыя гісторыі паціху аздабляецца маскоўскімі догмамі. Яшчэ адзін крок прамаскоўскае гістарыяграфіі — гэта скарочаны варыянт сумна вядомага дапаможніка для навучальных установаў «Гісторыя Беларусі» Г.Марцуля й Я.Новіка, выдадзенага ў 1998 г. як контравэрсія «Нарысаў гісторыі Беларусі» часоў «беларусізацыі».*

Чытаў кнігі Віктар Мухін




*У бібліятэцы «Фрагмэнтаў» выйшла новая кніга — манаграфія Робэрта Нісбэта «Кансэрватызм» у перакладзе Аляксандры Андрыеўскай. Пераклад быў зроблены шчэ за часоў існаваньня Беларускага Фонду Сораса. Надрукаваная кніга ў Вільні, добры друк, 132 старонкі. Выданьне спатрэбіцца ўсім нашым палітычным кансэрватарам — як хрысьціянскім, так і простым. Напісаная манаграфія ў 1986 годзе, калі «новы кансэрватызм» трыюмфаваў у ЗША (Р.Рэйган) і Вялікай Брытаніі (М.Тэчар). Пра тое, дзе набыць кнігу, можна даведацца праз т.220-63-36 і 256-21-67.*



Фота Аляксея Мацюша

# САБАЧЫЯ ГІСТОРЫІ

Віктар ШНІП

Адзін сабака прыйшоў да Бэтховэна. А там ужо Граждан сядзіць і лічыць даляры.

У гонар аднаго сабакі назвалі вуліцу. Даведаўся пра гэта Граждан і ўзяў і павесіўся.

Адзін сабака прачнуўся сярод ночы. Навокал цёмна, аж жуць. І завыў сабака. Прачнуўся Граждан і ўбачыў, што побач няма жонкі.

Аднаго сабаку паслалі на курорт. Прыехаў сабака да мора, лёг на пясок і заснуў. Ішоў ля вады Граждан, убачыў сабаку і сказаў: «А гаварылі, што гэта не Гандурас...»

Адзін сабака надрукаваў у газэце заметку «Про нашего мальчика». А Граждан падумаў, што заметка пра яго, і скупіў у горадзе ўсе газэты.

Адзін сабка пераапрануўся ў грažданку Грыцацуеву. Прыйшоў на барыкаду і закрычаў: «Гражданы, каму жыць надаела, за мной!..»

Адзін сабака вельмі ўжо любіў катоў. Зловіць ката, прывяжа яму да хваста пустую бляшанку, пусьціць і радуецца, як Граждан.

Адзін сабака вычытаў у газэце, што калі хто першы прыедзе на станцыю мэтро «Граждан», таму там дадуць мэдаль. І паехаў сабака, і прыехаў, а там цэлая куча сабак, і ўсе мэдаля чакаюць.

Адзін сабака захацеў стаць настаўнікам усяго сьвету. Але ўжо гэтую пасаду заняў Граждан.



Адзін сабака прынёс дамоў рыбіну. Паклаў яе на стол, а яна і кажа: «Мяне можа есьці толькі Граждан...»

Адзін сабака быў у грažданскім шлюбе з грažданкай Калантай. А Граждан прыстроіўся ў шалашы ля Фінскай затокі.

Адзін сабака нарадзіўся. А Граждан памёр. Адзін сабака памёр. А Граждан нарадзіўся і нічога не сказаў.

Адзін сабака вырашыў пахудзець. І стаў бегаць па вуліцы, як Граждан. Убачыў гэта Граждан і параіў: «Ты яшчэ і падштанікі здымі...»

Аднаму сабаку не было чаго рабіць. А Граждан любіў цукеркі з фабрыкі «Камунарка».

Адзін сабака запісаўся ў шпіёны. А Граждан даўно ўжо быў там, і яфрэйтарскія пагоны яму начамі саграгавалі душу.

Аднаму сабаку зрабілі прышчэпку ад грыпу. Граждан грыпу не баяўся — ён ужо ляжаў на сьмяротным адры і чакаў папа.

Адзін сабака быў кавалерыстам. Праўда, конь быў у Граждана.

Адзін сабака займаўся абы чым. І прыйшоў Граждан і сказаў: «Пара ўжо вам, гражданін Шарыкаў, і жаніцца...»

Адзін сабака запісаўся дабравольцам на вайну. Праз месяц прывезьлі труну, а ў ёй — Граждан.



## прыватныя абвесткі



**вітаньні**

Віншую са сьвятам 8 сакавіка **любых мамулю, бабуляў і цётачак**. Мікалай Касьцюковіч

**У чэсьць дня раждзенія Васілевіч** слажываю зь сябе палнамочыя бывшага прэзідзента і вазврашчаюся к Мілке. Шурык

**Шчыра віншуем усіх жанчын Беларусі.** Жадаем шчасьця, любові, надзеі і веры ў лепшае. Янукі Бацькаўшчыны

Маладыя палітыкі віншуюць **Алеся Марачкіна** з Днём народзінаў. Сустрэнемся свабодныя !!. Наста і Наталька

**Любая Наталка Ляканава!** Віншую са сьвятамі. Зычу прагі да жыцьця. Твой кот

**Даражэнькая Наталька Васілевіч!** Віншую з Днём народзінаў. Жадаю захаваньня і пашырэньня ***легітымнасьці***. Сястра-Канстытуцыя

**Сястрычка Наталька!** Няхай у Дзень народзінаў вершнік на кані прынясе табе шчасьце, каханьне і волю. Уладзімер

**Спадарыню Васілевіч** віншуем з Днём народзінаў і запрашаем да сумеснага змаганьня за вольную Беларусь. КХП БНФ

**Аматару гульняў на публіку.** Віншую са сьвятам «Тры ў адным». Дзень канстытуцыі, Марш і Дзень народзінаў у адзін дзень — хіба можна лепей прыкалоцца?! Глядач

**Наталька!** Віншую цябе з двума сьвятамі адразу: Днём народзінаў і Маршам Свабоды !!. Аленка

**Тайка!** Вуліца Н. чакае цябе. Жадаю вырашыць усе «філязофскія» праблемы. Маша Свабодная

**Паштальёну свабоды**. Сямнаццатых кастрычнікаў, восьмых сакавікоў і іншых пятніцаў табе. Аднапалчанка

**Галоўнай беларускай** лягіцы ад сяброўкі па адмарозьніцтве прывітаньне. Сустрэнемся на барыкадах. Маша Свабодная

**Абяцаю Натальцы** Васілевіч да наступнага Дня яе народзінаў вызваліць Радзіму ад акупантаў. Прэс-сакратар Басаева

**кантакты**

**Хачу пазнаёміцца** са шчырай беларускай да 25 гадоў. Беларус. А/с 2, Менск, 220017

**Павал!** Што сталася з «Хрысьціянскай ініцыятываю»? Ці жыве яшчэ Хрыстос у нашых душах? Сяржук Л.

**Малады Фронт** запрашае цябе штопанядзелак і штосчацьвер увечары — на Варвашэні, 8. За Беларусь! Т.: 284-50-12

**Навукоўцы і гісторыкі**, праўнікі і эканамісты. Запрашаем да супрацоўніцтва на карысьць Бацькаўшчыны. ВК Літвы. А/с 197, 220113, paustan@europe.com

Licviny Homiela: skantaktujciesia z našym addziełam u siabie. A/s 97, 246028. Heta naša ziamla

**спачуваньні**

**Гарадзенскі Малады Фронт** смуткуе з прычыны нeспадзяванай і трагічнай весткі — заўчаснай сьмерці Гісторыка Міколы Ермаловіча. Дзякуй за Вашае Слова, спадар Мікола...

**Таварыства беларускай мовы** смуткуе з выпадку раптоўнай сьмерці вядомага дзеяча беларускага Адраджэньня, змагара за сапраўдную гісторыю Беларусі, ляўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусі Міколы Ермаловіча. Выказвае спачуваньне яго сваякам, сябрам і блізкім

**ідэі**

Прыму ў падарунак **Палац Рэспублікі ў Менску** для творчае майстэрні. Махнач Канавалаў

**Бязьмежна шчасьлівы,** бачачы вас цалуючымі абразы й рукі папоў у цэрквах рускіх, бо так вы цалуеце боты маім салдатам!!! Сувораў

**Суб'ектыўнаму ад Аб'ектыўнага.** Падсьвядомасьць гамбузіна — выпадак выключны. Дыялектыка!

**ЧэГевара заснуў.** Але калі ён прачнецца, будуць шкадаваць тыя, хто яго ўсыпіў

**Абавязкова трэба 14 сакавіка** разам з прэм'ерам зацьвердзіць новага прэзыдэнта. Ян Беларус

**За Беларусь ёсьць каму стаяць!** Беларусам ёсьць каго абраць — Яна Беларуса! Будучыня, спакой і надзея Беларусі! Ян

**Усё рабіце ў імя Госпада** Ісуса Хрыста, дзякуючы праз Яго Богу Айцу! Кал. 3:17

**Хрыста забілі замест цябе!** Жыві і дзякуй Яму за ўратаваньне! Яўген

**Веруй у Госпада** Ісуса Хрыста, і будзеш збаўлены ты і ўвесь дом твой. Дзеі 16-37

**Беларуская форма** — хрысьціянскі зьмест: для ўсіх, хто верыць у Бога і любіць Беларусь! Нацыянальная ідэя

**Добра табе, зямля**, калі цар твой — сын годнага, і князі твае ядуць у пару, каб паесьці, а не нажэрціся. Э.10.17

**Нацыяналізм!** Паўстаньне! Воля! Пэйджар 289-12-12, абанэнт 7066

**Інтэгратарам у Расею**, ЭЗ, НАТА і інш.: годзе рабіць з Айчыны путану!!! Алесь з Палесься

**Дабрадзею**: крывадушнікамі і круцялямі брыдзіцца Госпад. Таму мы Ліцьвіны!!! БЗЛМ

**Белы расеец** — скарочана беларус. А ў РФ жывуць чорныя расейцы? Алесь з Палесься

**Ліцьвін**, далучайся да сваіх! Разам мы адродзім ВКЛ, нашу Бацькаўшчыну, наш лад. БЗЛМ

**кнігі, пэрыёдыкі**

**Куплю беларускія Біблію і Эвангельле**, духоўную літаратуру на беларускай мове. Т.: 226-42-63

**Набуду літаратуру па гукарэжысуры.** А/с 28, Пінск-6, 225710

**Набуду часопіс «Беларуская мінуўшчына»** № 3 за 1997 год. 225710, Пінск-16, а/с 59

**Набуду кнігі па гісторыі і беларускай літаратуры.** Т.: 257-55-26, Максім

**«Калосьсе» ў Інтэрнэце**: http://www.kalossie.freeservers.com

**музыка, відэа**

**Kontrakulturny postmaderniscki muzyčny časopis «Клёк 2».** D-Shop (vul. Prytyckaha 40), Alisa (Zacharava 27)

**Берасьцейцы!** Усе, хто любіць беларускую музыку, зьвяртайцеся па касэты і CD. Т. у Берасьці: 24-54-56, Сяржук

**Рыхтуецца пераклад фільма «Матрыца»** (Matrix). Заяўкі дасылаць: 220107, а/с 150, «Матрыца»

**Відэа па-беларуску**: «Адважнае сэрца», «Пяты элемэнт», «Ісус», «Сьлёзы блуднага сына», «Салодкі яд каханьня», «Вольныя танцы». 220107, а/с 150. Т.: 213-43-52, 240-78-01

**сьцяг**

Буду вельмі ўдзячны за падарунак — **бел-чырвона-белы сьцяг**. А/с 28, Пінск-6, 225710

**курсы**

**Запрашаем вывучаць ангельскую мову праз беларускую** дзетак 4—5 гадоў. Т.: 216-57-52 (19.30—21.00, Кастусь)

**Курсы Ды-джэяў Адраджэньня** — штопанядзелак, 17.00, Варвашэні 8. Уваход вольны. Т.: 284-50-12

**DJ шукае працы.** Куплю вінілы з галасамі касманаўтаў ды іншыя. А/с 28, Пінск-6, 225710

**юрыст**

**Патрэбная дапамога юрыста**, знаўцы працавага заканадаўства. Т.: 279-67-14, пасьля 18-й, Уладзімер

**праца**

**Шукаю в/а працы:** PR, журналістыка, рэдактура, навука, беларуская, рас., польская, ангельская мовы. А/с 195, 220030, Менск, Алесь

**А, Б, В, Г, Д** — з гэтага пачынаецца альфабэт; 249-68-18 — з гэтага пачынаецца твая праца (19.00 — 22.00). Аляксей

**Дапамагу пачаць** свой бізнэс у хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Даступна ўсім! Ад вас — капэрта са зв/а + купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

**хата**

**Прадаю мураваную хату** і ўсе гаспадарчыя пабудовы, сад у самым экалягічна чыстым і маляўнічым кутку Беларусі. Юзэфа Шаблінская, Полішкі, 231232, с/с Астравецкі раён







## паштовая скрынка

**abc, Niejkamu i *Čytači* з Кнігі водгукаў «НН» у Інтэрнэце.** *«Чыгірыха» — не фамільярнасьць, а жывая беларушчына, якая палохае толькі таму, што ўсе прызвычаіліся да мёртвай. «Здымак Алены Адамчыхі» — тое самае, мабыць, мы яшчэ толькі «дасьпяваем» да гэтага. Зь пісьменьнікаў старэйшага пакаленьня «НН» і «Arche» вылучаюць ня толькі В.Адамчыка і ня толькі таму, што ён бацька Глёбуса, а ўсіх літаратараў, хто жыве ў цяперашнім часе, а не ў БССР. Між іншым, за кожную сытуацыю кшталту «бацька — сын» у беларушчыне нам трэба хапацца дзьвюма рукамі, а ня ёрнічаць, бо гэта жывая повязь, зародак. Глёбуса друкуем ня толькі таму, што ён «сябра Дубаўца», хоць гэта якраз пацьвярджае пэўнасьць нашага выбару і нашу адказнасьць перад вамі, чытачамі.*

**Скіргайлу П. зь Менску.** *Вы марыце пра інтэлектуальнае грамадзтва, а самі хочаце заблытаць чытача ў сваіх моўных гульнях. Яснасьць — ня значыць простасьць і пагатоў глупства. Яснасьць — перадумова складанасьці, а якраз наўмысная зацьмянёнасьць — гэта хамства. Разумеем, што гіпэртрафаваная беларускасьць (якая таксама і ў непрыманьні назвы «Беларусь», якую Вы лічыце крэольскай) — гэта рэакцыя на разгул расейскай стыхіі. Трэба аднак захоўваць вытрымку і цьвярозасьць розуму. Моўная барочнасьць у Вашым выкананьні часта нехарошая, бо ня ў меру. Усё астатняе прымаем.*

**Лізе Ротвальд Н., <lisaro@online.no>.** *«НН» не выдавала асадак са сваім лягатыпам.*

**Сяргею Ш. з Наваполацку.** *Ужо сама назва Вашай рэцэнзіі прэтэнцыёзная, няясная і зорна-прыгожая. Няяснасьці множацца пры чытаньні. Нібыта без гіпатэтыкі й містыкі ў нас — ніяк. Але з псыхічнымі выбухамі трэба змагацца ня «іхнымі ж мэтадамі», а картэзіянскай яснасьцю і празрыстасьцю думкі.*

«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Сакратар-рэфэрэнт Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук.
**Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.**
**Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.**
© **НАША НІВА**. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 3801. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 23:28, 12.03.2000. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 1222. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны.
Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр.газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Дыспэтчарска-рэдакцыйны адрас: Менск, Бабруйская, 19/36